ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Штабістаў хочуць «загаліць»

Кіраўнікоў магілёўскага абласнога штаба Аляксандра Мілінкевіча раптам пачалі выклікаць у ваенкаматы. Расказвае намеснік начальніка Магілёўскага абласнога штаба адзінага прэтэндэнта Аляксандр Сілкоў:

— Першы трывожны званок з ваенкамата я атрымаў яшчэ ў канцы мінулага года. А 1 студзеня да мяне ў кватэру пазванілі, і я, не чакаючы нічога дрэннага, адчыніў дзверы. Праз некалькі хвілін атрымаў позву ў ваенкамат. Характэрна, што 15 гадоў таму я скончыў службу і за ўвесь гэты час мяне ні разу не выклікалі на вайсковыя зборы. Да таго ж па стану здароўя я не магу быць прызваны, бо ў мяне дрэнны зрок: "мінус сем на абодва вока". Таму, папярэдне схадзіўшы ў бальніцу і атрымаўшы даведку аб стане свайго зроку, я накіраваўся ў ваенкамат. Там мяне ўжо сустракаў капітан. Як толькі я ўвайшоў у кабінет, капітан адразу набраў нейкі нумар і адчытаўся: "Прыйшоў Сілкоў". Сутнасць далейшай тэлефоннай размовы была наступнай:

— Калі прыйшоў — забірайце, — адказалі ў тэлефоне так гучна, што я пачуў гэта, стаяўшы побач.

— Але Сілкоў прынёс даведку аб тым, што ў яго дрэнны зрок, — удакладніў капітан.

Сілкоў расказаў аб тым, што калі ён служыў у войску, "касіць ад арміі", нават маючы дрэннае здароўе, лічылася няправільным. Кожны малады чалавек павінен быў адслужыць. Праз некаторы час Сілкову ўручылі накіраванне ў шпіталь, дзе ўрачы цалкам пацвердзілі стан яго зроку. І да сённяшняга дня супрацоўнікі ваенкамата яго больш не турбавалі.

Другую гісторыю распавёў нам Сяргей Стральцоў, таксама прадстаўнік Магілёўскага абласнога штаба Аляксандра Мілінкевіча:

— Раніцай у маёй кватэры раздаўся тэлефонны званок. Да апарата падышоў мой брат. Жанчына паведаміла, што тэлефануюць з Магілёўскага абласнога ваенкамата, і запыталася мяне. Даведаўшыся, што ў той час мяне не было дома, яна стала задаваць пытанні аб маім цяперашнім месцазнаходжанні і маёй працы. У цяперашні час сітуацыя знаходзіцца ў падвешаным стане.

Акрамя таго, па інфармацыі, якую распаўсюдзіла прэс-служба Аб'яднанай грамадзянскай партыі, аднаго з магілёўскіх актывістаў, які падчас правядзення прэзідэнцкіх выбараў збіраецца займацца назіраннем, таксама выклікалі ў ваенкамат, дзе ў яго адбылася размова з супрацоўнікам КДБ. Падобныя падзеі адбываюцца ў гэтыя дні таксама ў Мінску і Мінскай вобласці.

З дапамогай ваенкаматаў улады вырашылі ізаляваць на перыяд выбарчай кампаніі палітычна актыўных мужчын? Вельмі і вельмі падобна на тое.

**Генадзь МАЖЭЙКА.**

РЭЗАНАНС

## *А чым не прэзідэнт?!*

У мінулым годзе наша газета пазнаёміла чытачоў з асобай А.У.Казуліна. Пасля той публікацыі я сказаў сабе: а чым не прэзідэнт? Фізічна здаровы, выдатна адукаваны і выхаваны, далікатны, патрыёт Беларусі "до мозга костей". Ён не будзе гандляваць лёсам Беларусі, хваліць гітлераўскі рэжым і вешаць локшыны ў выглядзе "дзесяці запаведзяў" нам на вушы. Я перакананы, што ўсю сілу сваёй дасведчанасці Аляксандр Уладзіслававіч аддасць на тое, каб вярнуць Беларусі статус дэмакратычнай, прававой, нейтральнай краіны, якую з цікавасцю будуць наведваць Буш і Блэр, і яго прымаць у сябе як годнага госця. "Народная воля" зойме кабінет у "Доме друку" побач са "Звяздой", а я не буду баяцца, што беларускія міліцыянты на дэманстрацыі праломяць мне дубінкамі чэрап ці пераломяць рэбры.

Поспехаў і здароўя Вам, Аляксандр Уладзіслававіч!

**Максім БЯРЭЗІНСКІ,**
*Мінск.*

ДЫПКУР'ЕР

## *Беларускае пасольства не штурмавалі,*

### але меры бяспекі прымаюцца

Прадпрымаюцца дадатковыя меры па арганізацыі бяспекі пасольства Беларусі ў Сірыі ў сувязі з масавымі беспарадкамі ў Дамаску. Пра гэта сёння паведаміў выканаўца абавязкаў начальніка ўпраўлення інфармацыі — прэс-сакратара МЗС Андрэй Папоў.

Нагадаем, што масавыя хваляванні мусульман, справакаваныя публікацыямі ў еўрапейскіх газетах карыкатур на прарока Мухамада, у мінулыя выхадныя адбыліся ў сталіцы Сірыі. Натоўп штурмаваў пасольствы Даніі і Нарвегіі. Газеты менавіта гэтых краін першымі апублікавалі скандальныя малюнкі. Паведамляецца, што пацярпелі таксама пасольствы Швецыі і Чылі, якія знаходзяцца ў тым жа квартале. Штурм пасольства Францыі паліцыя з цяжкасцю прадухіліла ў апошні момант. Урады Даніі і Нарвегіі заклікалі сваіх грамадзян тэрмінова пакінуць Сірыю.

Як зазначыў выканаўца абавязкаў прэс-сакратара МЗС Беларусі, нягледзячы на тое, што беларускае пасольства знаходзіцца непадалёк ад нарвежскага дыппрадстаўніцтва, яно не пацярпела падчас пагромаў і працуе ў звычайным рэжыме. Тым не менш беларускі бок сумесна з сірыйскімі ўладамі прадпрымае ўсе магчымыя меры па арганізацыі бяспекі дыпламатаў і членаў іх сем'яў, зазначыў А.Папоў.

**Андрэй СЕРАДА.**

SOS!

## Чаму следства не цікавіцца Антонам Філімонавым?

*Сваякі забітай журналісткі Веранікі Чаркасавай і яе сына Антона Філімонава выступілі з адкрытым зваротам да грамадскасці. Яны лічаць, што толькі галоснасць у дачыненні да справы А.Філімонава можа дапамагчы яго вызваленню.*

За больш чым месяц утрымання ў следчым ізалятары, адзначаецца ў звароце, з А.Філімонавым "не было праведзена ні аднаго следчага дзеяння па справе аб фальшывых грашовых знаках". Бабуля і дзядуля падлетка — Дзіяна Чаркасава і Уладзімір Мялешка — звяртаюць увагу на тое, што непаўналетні Антон — адзіны з пяці затрыманых па гэтай справе маладых людзей, якога памясцілі ў СІЗА.

Акрамя таго, блізкія А.Філімонава паведамляюць, што праваахоўныя органы прызналі факты наведвання падлетка ў СІЗА асобамі, якія не маюць дачынення да справы аб фальшывых грашовых знаках.

*"Хлопцу другі год не даюць вучыцца. Ён маральна падаўлены, паводле слоў турэмных псіхолагаў, знаходзіцца ў дэпрэсіі, што не можа не адбіцца на стане яго і без таго слабога здароўя. У Антона захворванні нырак і праблемы з сэрцам. Турэмныя ўрачы спрабуюць яго абследаваць і прызначыць лячэнне. Аднак утрыманне ў СІЗА, стрэс і дрэннае харчаванне прывялі да таго, што за месяц знаходжання пад вартай Антон пахудзеў на 7 кілаграмаў і ў яго сталі частымі прыступападобныя болі ў сэрцы. Паводле слоў спецыялістаў, страта ў вазе пры такім захворванні нырак можа прывесці да незваротных наступстваў у арганізме і нават інваліднасці"*, — гаворыцца ў заяве.

16-гадовы А.Філімонаў быў затрыманы 27 снежня. Ён з'яўляецца фігурантам крымінальнай справы, распачатай па арт. 221 КК (выраб, захоўванне або збыт фальшывых грошай або каштоўных папер). 30 снежня пракурор Першамайскага раёна Мінска вынес пастанову аб арышце А.Філімонава. Паводле слоў сваякоў, у следчы ізалятар да затрыманага дапускаюцца асобы, якія схіляюць яго прызнацца ў забойстве ўласнай маці.

**Сяргей ПУЛЬША.**

ЧУЛІ?

## *Абяцанкі-цацанкі*

Аляксандр Лукашэнка даручыў ураду ўнесці прапановы аб магчымай кампенсацыі насельніцтву расходаў за цеплазабеспячэнне і падаграванне гарачай вады за студзень, калі ў Беларусі назіраўся моцны мароз. Як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, такое даручэнне дадзена прэм'ер-міністру Сяргею Сідорскаму падчас справаздачы кіраўніка ўрада.

Было зазначана, што, згодна з папярэднімі разлікамі ўрада і мясцовых органаў улады, у параўнанні са снежнем 2005 года ў студзені гэтага года расходы толькі па газе ў краіне павялічыліся на 32%. Ураду пастаўлена задача адшукаць неабходныя сродкі і ў найбліжэйшы час праінфармаваць аб магчымасці правядзення такіх выплат жыхарам дамоў, у якіх ажыццяўляецца ўлік цеплавой энергіі.

**Ул.інф.**

ДАСЛОЎНА

## *Ярмошына прызнала, што грошай на агітацыю вельмі мала*

Кіраўнік Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзія Ярмошына выступае за стварэнне індывідуальных фондаў кандыдатаў.

Спадарыня Ярмошына лічыць недастатковай суму ў 2300 базавых велічынь, што выдзяляецца дзяржавай кандыдатам у прэзідэнты. *"Відавочна, што нам таксама трэба пераходзіць да стварэння індывідуальных фондаў кандыдатаў,* — сказала кіраўнік ЦВК. — *Хаця за мяжой ужо сталі звужаць мэты, на якія з падобных фондаў могуць накіроўвацца сродкі".*

Пры гэтым Л.Ярмошына зазначыла, што ў Беларусі, акрамя грошай, дзяржава бясплатна прадастаўляе прэтэндэнтам па гадзіне часу на тэлебачанні і радыё, магчымасць апублікаваць сваю праграму ў газеце, "а гэта каштуе дорага".

БУДЗЬЦЕ ГАТОВЫ!

## *Без пасрэднікаў*

У бліжэйшы час урад падрыхтуе пакет дакументаў, якія звязаны з рэгуляваннем гандлёвай і пасрэдніцкай дзейнасці. Галоўная мэта новых мер — барацьба з "неабгрунтаваным і нядобрасумленным пасрэдніцтвам".

Зараз Міністэрства эканомікі сабрала і апрацоўвае прапановы ад усіх беларускіх прадпрыемстваў наконт стварэння ўласных гандлёвых сетак і новай схемы экспартна-імпартных паставак. Гэта значыць, што рэалізацыя прадукцыі беларускіх заводаў праз незалежныя гандлёвыя фірмы і кампаніі можа звесціся да мінімуму. Па неафіцыйных звестках, урад патрабуе ад прадпрыемстваў стварэння і пашырэння ўласных гандлевых і дылерскіх сетак як унутры Беларусі, так і за яе межамі. Рэвізіі і змены адбудуцца таксама ў сістэме закупкі прадпрыемствамі камплектуючых і сыравіны.

У бліжэйшы час павінна адбыцца пасяджэнне прэзідыуму Савета міністраў, якое будзе прысвечана менавіта гэтай праблеме.

*www.belaruspartisan.org*

СУД ДА ДЕЛО

## *Стрелочники гибнут первыми*

В суде Ленинского района Минска проходят слушания довольно интересного уголовного дела. На скамье подсудимых — заместитель начальника пассажирской службы Белорусской железной дороги Юрий Редько. Ему инкриминируется злоупотребление служебным положением, что выразилось в незаконном использовании салон-вагонов. Однако, как говорят работники БЖД, Редько просто выполнял приказ руководства...

Салон-вагоны — это что-то вроде служебного транспорта для руководства БЖД и страны. Есть свой салон-вагон и у белорусского правительства, и у президента, однако последний им практически не пользуется. Салон-вагон представляет из себя шикарные передвижные апартаменты со всеми удобствами: мягкая кожаная мебель, горячий душ, кухня-бар, телевизор и т.д.

Согласно положению об использовании салон-вагонов, начальник Белорусской железной дороги и его заместители могут использовать эти вагоны при служебных командировках и один раз в год — при следовании в отпуск. Организована работа салон-вагонов достаточно просто: если начальник БЖД желает куда-то поехать, он дает команду в пассажирскую службу прицепить к ближайшему поезду, следующему в нужном направлении, салон-вагон. Вместе с распоряжением в пассажирскую службу должны поступить и соответствующие документы, свидетельствующие, что руководитель БЖД направляется в командировку. Однако, как выяснилось, реально эти документы оформлялись позже, если вообще оформлялись. Фактически для пассажирской службы достаточно было одного звонка от руководства, чтобы прицепить к поезду салон-вагон. Никто никогда не интересовался, кто, куда и по какой надобности в нем едет. Как теперь выясняется — напрасно. Оказалось, что руководители дороги пользовались салон-вагоном не только для служебных нужд, иногда в нем и вовсе ездили совершенно посторонние лица, к БЖД не имеющие никакого отношения, зато обладающие властью и влиянием.

Если рассматривать это дело с точки зрения справедливости, то к ответственности нужно привлекать тех, кто отдавал распоряжения о незаконном использовании салон-вагонов. Однако распоряжения, как вы понимаете, всегда отдавались устно. Кроме того, согласно документам, пассажирская служба самостоятельно распоряжается салон-вагонами, и при отсутствии документов может отказаться прицеплять вагон. Однако как тут откажешься, когда тебе приказывает высшее руководство, да еще на Белорусской железной дороге, где царит жесткая иерархия. Поэтому и идут под суд обычные "стрелочники", которые просто выполняют приказ.

*www.belaruspartisan.org*

ПРОВИНЦИАЛЬНЫЕ СЮЖЕТЫ

# Тем хуже для власти

## *Если борьба за законные права людей оказывается борьбой против нее...*

### Немного истории

*Центр района — город Жлобин, один из красивейших городов Беларуси, возник на историческом торговом пути из варяг в греки. Он существовал задолго до первого упоминания о нем в 1492 году под названием Хлепень.*

*Интенсивному развитию района способствовало строительство Либаво-Роменской (1873) и Петербургско-Одесской (1902—1916 гг.) железных дорог. Жлобин стал крупным железнодорожным узлом.*

*В 1919 году он становится волостным центром, а 17 июля 1924 года — центром Жлобинского района. Он находится на расстоянии 93 км от Гомеля и 215 км от Минска.*

*В районе проживает 106,1 тыс. человек, в том числе в городе — 72,7 тыс. человек.*

*Промышленность региона представлена предприятиями: республиканское унитарное предприятие "Белорусский металлургический завод"; ОАО "БелФА"; ЖУП "Уником"; ОАО "Жлобинский мясокомбинат"; ОАО "Жлобинский молочный завод".*

*Жлобинский район — один из крупнейших производителей сельскохозяйственной продукции в Гомельской области.*

### БИМСХ, БАТУ, БМЗ...

...Что такое самая большая неудача в жизни? Это, как говорят, если выпьешь клецкого пива, закусишь стародорожской солянкой и после попадешь в пуховичскую больницу...

Тогда что такое самая большая удача? Это если живешь в Жлобине и устроишься на работу на Белорусский металлургический завод. Аборигены называют его просто — БМЗ.

...Если уж и дальше использовать аббревиатуры, то мы должны сказать, что Валерий Рыбченко окончил БАТУ (Белорусский аграрно-технический университет) еще в те времена, когда он назывался БИМСХ (Белорусский институт механизации сельского хозяйства). Тогда там готовили инженеров двух разновидностей. Первая называлась "инженер гайкин" (то есть инженер-механик), а вторая "инженер пробкин" (то есть инженер-электрик). Валерий Рыбченко получил квалификацию "инженера гайкина" и был направлен навстречу своей судьбе, а именно в город Жлобин. Где уже функционировал упоминавшийся выше БМЗ.

### Немного информации

*За минувший год среднемесячная заработная плата по Жлобинскому району, согласно статистике, превысила 600 000 рублей. За октябрь минувшего года средняя зарплата по БМЗ составила 1 млн 199 тысяч рублей. На ремонтном заводе она около 300 000. Жена Валерия Рыбченко работает медсестрой, получает около 200 000 рублей.*

*Согласно докладу председателя исполкома М.В.Косюкова, опубликованному в местной газете, выполнены все показатели пятилетки за исключением производства потребительских товаров.*

*Правда, согласно его же докладу, "в 2005 году наблюдалось снижение эффективности производства. Увеличился уровень материалоемкости (на 25%) в промышленности и затраты (на 28%) на выпуск промышленной продукции. Что в свою очередь повлекло снижение рентабельности".*

*И БМЗ, и местный завод искусственного меха(ОАО "БелФА") — технологичные предприятия с высокой зарплатой — допрезидентские, еще советские проекты. Создание и успешное функционирование которых, как, кстати, и стабильность в белорусском обществе, — целиком заслуга руководства страны до 1994 года.*

### Команда как она есть

...Все началось в 1996 году. Валерий Рыбченко — просто мастер в своем ремонтном цехе на БМЗ — выступил против затеянного президентом референдума и не побоялся сказать об этом публично. Директор завода Феоктистов, что называется, рвал и метал. Он чувствовал себя членом большой государственной команды и не мог допустить, чтобы какой-то там мастер... Словом, он требовал, чтобы молодой, толковый, но "не понимающий жизни" Рыбченко перешел в эту же команду. И, как говорят местные цыгане, "тогда вам будет счастье...".

Потом, как известно, Феоктистова арестовали. Но команда, членом которой он себя считал, не защитила, даже наоборот... Выйдя из-за решетки, Феоктистов встречался с Рыбченко и признавался, что был не прав.

А время шло и пришло к выборам 2004 года. Валерий Рыбченко, на тот момент высокооплачиваемый заместитель начальника цеха, выдвинулся кандидатом в депутаты парламента от ПКБ. Создав тем самым конкуренцию выдвиженцу от власти.

Но белорусская власть(собственно, группа чиновников, ее узурпировавшая) не любит конкуренции и не умеет конкурировать цивилизованно. Ее методы напоминают движение топора лезвием вниз. Вот и директор БМЗ Андрианов, считавший себя членом большой государственной команды, естественно, рвал и метал. Хотя вначале с молодым, толковым, но "не понимающим жизни" Рыбченко, по его словам, беседовали начальник цеха, потом женщина — заводской идеолог. Потом сам Андрианов вместе с депутатом парламента с милицейским опытом Глуховским. Разговор строился стандартно: ты выполняешь наши требования и тогда, опять же, "тебе будет счастье...". В виде более высоких должностей.

Но Валерий Рыбченко в такое счастье не верил. И, похоже, был прав. Потому что уже многие члены этой странной государственной команды, именующие себя почему-то государевыми слугами, нашли свое "счастье" кто в тюрьмах, а кто вдали от Родины.

Примеров множество — от управляющего делами президента Титенкова до начальника железной дороги Рахманько и руководителя телевидения Рыбакова и, если уж продолжать в рифму, включая управляющую делами президента Журавкову. Которая, к примеру, приезжала в Шклов и публично клеймила тамошнего начальника местного ЖКХ Григория Костусева за его убеждения члена Партии БНФ. Под давлением проворовавшейся уже тогда Журавковой достойный человек Григорий Костусев вынужден был уйти. Ну а "счастье" Журавковой после этого широко известно...

В общем, Валерий Рыбченко от предложений войти в эту команду отказался. К тому моменту он уже нашел свою — Партию коммунистов Белорусскую. При всех ее проблемах — проблемах оппозиционной партии в условиях тоталитарного режима — Рыбченко верит в благородство целей партии и порядочность ее лидеров. Здесь не жульничают, своих не сдавали никогда и не сдают сегодня!

...А разговор с директором и депутатом был суровым, с использованием в основном ненормативной лексики. И закончился обещанием выгнать с работы к соответствующей матери.. Что потом и произошло. А теперь идут суды, в которых Рыбченко доказывает незаконность увольнения. Он не жалуется и не клянчит, он борется за свои права.

### Еще немного информации

*Самая большая демократическая организация в Жлобине — Партия коммунистов Белорусская. В ее состав входят 43 человека. До 60% имеют высшее образование, 1 рабочий, до 40% пенсионеров, остальные специалисты народного хозяйства. До 40% работают на БМЗ.*

*Численный состав ячейки ОГП 21 человек. Почти половина имеет высшее образование. По профессиональным группам: электрики, экономисты, врач, юрист, педагог, есть безработные, есть пенсионеры.*

*Средний возраст — 45 лет.*

*В ячейке Партии БНФ 19 человек. Примерно треть с высшим образованием, 3 пенсионера, половина рабочие, есть инженеры, в основном работающие на БМЗ.*

*В общей сложности в органах власти зарегистрированы структурные подразделения девяти политических партий, 41 общественного объединения. В том числе Белорусской молодежной общественной организации спасателей пожарных, БРСМ и других.*




### Умение держать удар

...В Жлобине, как и во многих городах Беларуси, демократические традиции есть. Председателем местного Совета несколько лет был Марат Афанасьев, депутат Верховного Совета 13-го созыва, нынешний лидер ячейки ОГП. В то время горсовет под его председательством ни с кем не боролся, но подготовил и начал реализацию нескольких важных для людей программ. В том числе:

ликвидация последствий Чернобыля;

сотрудничество "город — село";

поддержка спорта;

реорганизация городского транспорта;

приватизация;

развитие коммунальных объектов.

Продолжая эти традиции, и нынешний лидер коммунистов Валерий Рыбченко ни с кем не борется, а просто пытается решать местные проблемы. Уже находясь под угрозой увольнения, он усугубил свое положение на профсоюзной конференции по подписанию коллективного договора. В нем содержался пункт, предусматривающий сокращение коллектива на 4%. Все боялись попасть в эти 4%, но еще больше боялись попасть в немилость: когда молчишь, оно может и пронести... Валерий выступил на конференции и предложил поставить этот пункт на отдельное голосование. Его все же уволили, но пункт не прошел.

Всякий, кто занимался боксом, знает: на ринге не грех отступить. Но шаг назад надо делать параллельно с ударом левой — или правой руки, в зависимости от стойки. Боксер второго полусреднего веса, руководитель Жлобинской ячейки ПКБ Валерий Рыбченко ушел с БМЗ непобежденным. Это во-первых. Во-вторых, все, кто ходил под угрозой сокращения, теперь знают, кому обязаны средней зарплатой более чем в миллион рублей.

Но и это не все. В процессе обжалования его увольнения с работы выяснилось, что в коллективном договоре на заводе нет пункта, согласно которому администрация должна согласовывать увольнение наемного работника с профсоюзами. Во избежание скандала, как рассказывает Рыбченко, этот пункт задним числом внесли. Еще к Рыбченко как лидеру ячейки ПКБ обратились граждане по поводу местной железнодорожной больницы, которую власти собирались закрывать. Но она людям была нужна.

Рыбченко организовал сбор подписей в защиту, после чего письмо с подписями было опубликовано в газете ПКБ "Товарищ". Официально на публикацию никто не откликнулся, но больница работает... И так далее.

### Не боритесь с Лукашенко

...Эпопея Валерия Рыбченко и его коллег по демократическим организациям в Жлобине (Марат Афанасьев, Анатолий Степаненко, фермер Михаил Пашук и многие другие...) заставляет понять довольно простую вещь: когда не воруешь, бояться особенно нечего. Может быть, сегодня для Беларуси это одна из главных, но пока не усвоенных истин.

Вспоминаются первые демократические годы, когда вообще никто никого не боялся. Когда демократы штурмовали местные райкомы партии. А самые "революционные" в регионах даже пытались ворваться к первым секретарям домой...

Где они, куда подевались? Да, несколько мужественных политиков власти отправили в тюрьмы. Да, мы всегда будем помнить имена исчезнувших... Но ведь не было в Беларуси массовых кровавых репрессий, ужасных термидоров, красного и белого терроров... Просто люди, которые вцепились во власть, всего лишь прикрикнули на население страны. Правда, громко прикрикнули!

И все! И этого оказалось достаточно, чтобы бессмертные идеалы демократии исчезли с провинциального и в целом белорусского небосводов. Словно и не было их...

Самое интересное в том, что устояли в этой — даже не борьбе, а суматохе — не те, кто еще совсем недавно громче всех говорил о демократии. Устояли и оказались победителями совсем другие. В том числе ни дня не состоявший в КПСС коммунист Рыбченко и его коллеги, которых незаконно вынуждают отказаться от права быть избранными.

В Мостовском районе Гродненской области коммунист Александр Пудовкин избран депутатом районного и сельского Советов. Против него власти пробовали выставить "своих" и вовсю применяли "административный ресурс" — "свои" провалились. Потому что Пудовкин видит смысл своей деятельности не в борьбе с кем бы то ни было, а в отстаивании интересов избирателей.

В Рогачевском районе Гомельской области ячейкой ПКБ руководит Виктор Павлов — рабочий местного завода, афганец, поэт. Его ячейка по численности практически в два раза больше, чем в Жлобине.

Секретарь Могилевского обкома ПКБ Валерий Березиенко — доктор наук, профессор, "главный сварщик" Советского Союза (таких специалистов, как он, в этой отрасли в пределах бывшей страны больше нет)...

То есть опыт руководителя жлобинских коммунистов Валерия Рыбченко, лидера ОГП Марата Афанасьева, лидера Партии БНФ в Жлобине Николая Погодина и их коллег из демократических региональных организаций показывает, что политическая борьба не есть только борьба на уровне лозунгов и митингов с руководителями государства или местных властных структур как таковыми. А персонификация заведомо сужает рамки и отвлекает от главного: постоянной (а не от выборов до выборов) борьбы за законные права местных, "тутэйших", живущих в этой местности и здесь же зарабатывающих свой хлеб людей. И если борьба за их законные права оказывается борьбой против власти — тем хуже для власти.

**Анатолий ГУЛЯЕВ.**

*Минск — Жлобин — Минск.*

**СОЮЗНИКИ**

## *Греф обозвал Беларусь большим оффшором и поручил с этим покончить*

Глава Минэкономразвития РФ Герман Греф поручил Федеральной таможенной службе заключить с таможенной службой Беларуси соглашение о контроле за перемещением грузов через границы двух стран. *"Мы создали большой оффшор для предпринимателей двух стран (России и Беларуси), он должен быть введен в правовое пространство"*, — сказал министр, выступая на расширенной коллегии Министерства по задачам таможенных органов на ближайшую перспективу.

Греф обозначил такую проблему, как масштабный реэкспорт российских товаров из Беларуси, когда продукция ввозится в страну по одним ценам, а потом возвращается (реэкспортируется) в Россию по более высоким. Греф указал также, что через Беларусь в Россию завозится тростниковый сахар, который там не производится, и таким образом импортеры уходят от уплаты таможенных пошлин. *"Беларусь стала в последнее время крупнейшим производителем тростникового сахара"*, — полушутя сказал министр.

По словам главы МЭРТ, российские нефтяные компании занижают цену нефти при поставках ее в Беларусь. *"Нужно разобраться, почему так отклоняются цены, в то время как налоговое законодательство не позволяет отклонение от рыночной цены более чем на 20%"*, — сказал министр. *"Нужно вообще разобраться с ценами и объемами поставок нефти в Украину и Беларусь, и как они соотносятся с реальными потребностями"*, — продолжил он. Греф пообещал провести этот анализ в течение 1—1,5 месяца и представить результаты таможенной службе.

Отвечая на вопросы журналистов по окончании коллегии, Греф уточнил, что *"есть серьезные отклонения в экспортной цене нефти от среднерыночной во все страны, включая Украину и Беларусь"*. По его словам, из стран СНГ это в большей степени касается Украины и Беларуси. *"Но это не вопрос стран, а вопрос к нашим компаниям-экспортерам"*, — добавил министр. Он уточнил, что "оффшором это назвать нельзя", но нужно разобраться в этой ситуации.

**Соб.инф.**

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

## *Цана на газ зменіцца ў наступным годзе*

Віцэ-прэм'ер, міністр абароны Расіі **Сяргей ІВАНОЎ**, выступаючы ў Мюнхене на 42-й штогадовай канферэнцыі па пытаннях палітыкі бяспекі, заявіў аб тым, што пастаўкі расійскіх энергарэсурсаў у замежныя краіны будуць ажыццяўляцца выключна па рынкавых прынцыпах, перадаюць замежныя інфармагенцтвы.

У прыватнасці, паводле яго слоў, цана на газ для Беларусі будзе зменена ў 2007 годзе. Цяпер яна складае 46,68 долара за адну тысячу кубічных метраў.

З некаторымі краінамі, як зазначыў С.Іваноў, кантракты заключаны і на наступны год. Па меры іх сканчэння будуць заключацца новыя дагаворы, заснаваныя на рынкавых падыходах.

Пры гэтым, паводле слоў расійскага віцэ-прэм'ера, цана можа як павялічвацца, так і памяншацца.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**КРЭДЫТ**

## *З надзеяй на чужыя грошы*

Сёлета ААТ "Лідская абутковая фабрыка" прыцягне 2 мільёны еўра крэдытных рэсурсаў італьянскага банка **"Медыябанка"** на тэхнічнае пераўзбраенне прадпрыемства.

Асноўнай мэтай праекта з'яўляецца пашырэнне і абнаўленне асартыменту за кошт прыцягнення крэдытных рэсурсаў пад тэхнічнае пераўзбраенне і мадэрнізацыю вытворчасці, падкрэслілі ў канцэрне.

У прыватнасці, укараненне новых адлівальных агрэгатаў і тэхнааснасткі дазволіць удасканаліць тэхналогію метадам ліцця, забяспечыць выпуск канкурэнтаздольнай і экспартаарыентаванай прадукцыі. Абутак, як гэта прадугледжана ў інвестыцыйным праекце, будзе выпускацца з прымяненнем новых прэс-форм, што значна палепшыць якасць і знешні выгляд, павялічыць попыт на прадукцыю, што выпускаецца.

Прадугледжваецца, што прадпрыемства ў год выпусціць і рэалізуе 600 тысяч пар на суму, эквівалентную 1,56 млн. долараў ЗША.

Пагадненне аб адкрыцці італьянскім інвестыцыйным банкам "Медыябанка" для Беларусі крэдытнай лініі на 20 млн. еўра было падпісана кіраўніцтвам "Белзнешэканамбанка" і "Медыябанка" ў канцы мая 2004 года ў Мілане падчас візіту прэм'ер-міністра Беларусі Сяргея Сідорскага ў італьянскую правінцыю Ламбардыя. У красавіку 2005 года было падпісана пагадненне, якое прадугледжвае павелічэнне крэдытнай лініі, што выдзяляецца беларускаму боку, з 20 да 70 млн. еўра. Адной з умоў уступлення пагаднення ў сілу з'яўлялася прадастаўленне гарантыі беларускага ўрада.

**ДА ВЕДАМА.** Лідская абутковая фабрыка створана ў 1927 годзе на базе прыватнага прадпрыемства. Фабрыка спецыялізуецца на выпуску абутку ўсіх таварных груп, з верхам з тэкстыльных матэрыялаў, на падэшве з порыстай гумы кленага метаду мацавання: мужчынскіх, жаночых, дзіцячых паўчаравікаў, з верхам са спілку-велюру і штучнай скуры ліццёвага метаду мацавання.

**Марына НОСАВА.**

**КОНФЛИКТ**

# Бунт в «Старом городе»

*Почему по разные стороны баррикад оказались предприниматели рынка и его владелец?*

Живуча донельзя командно-административная система! Она приспособилась под боком у рыночной экономики и предпринимательства. Эти отношения, переплетаясь между собой, принимают порой причудливые формы. Пример тому — острая ситуация на брестском рынке "Старый город", что в микрорайоне "Ковалево". На этот рынок — собственность ООО "Идея" — в середине прошлого года "в полном составе" переехал трикотажный рынок: более 400 предпринимателей и около 550 тентовых палаток. С ними заключены долгосрочные договоры до 2010 года. Притом на выгодных для них условиях: за пользование торговым местом в 6 "квадратов" — за невысокую плату в один доллар за день с учетом НДС, а с конца ноября минувшего года — один евро. Но вот среди ясного неба грянул гром. По инициативе собственника рынка **Владимира Штыка** возникла мысль построить на этом месте металлические палатки роллетного типа. "Трикотажников" предупреждали о грядущих переменах, с чем они тогда согласились. Теперь же, наоборот, большинство их стеной встало против такой метаморфозы. В чем же суть конфликта между субъектами негосударственной формы собственности?

### Дружба дружбой. А деньги?

По инициативе владельца рынка провели конкурс, где выбрали четыре строительные фирмы, которые изготовили и установили бы те палатки. Как вспоминает член инициативной группы "трикотажников", директор ООО "Идея" Владимир Штык поставил предпринимателей перед фактом: он остановился на одном варианте. Предприниматели выступали на конкурсе в роли статистов.

Предложенную конструкцию из металлических труб нарочно не придумаешь: блок из 4-х палаток под одной крышей, у каждой из палаток — по 2 общие перегородки. Как объяснил Владимир Владимирович, из-за сравнительной дешевизны проекта. Вышло, что стоимость одной палатки роллетного типа размером 3х2,3 метра — 2 млн. 687,5 тысячи рублей, или в эквиваленте 1250 долларов. Другая конструкция потянула бы до 2-х тысяч у. е. Но лучше бы не гонялись за дешевизной: свою собственность (палатку) в случае переезда никому не удастся забрать с собой, переезжать нужно только вчетвером.

В начале декабря Владимир Штык и администрация рынка стали будоражить "трикотажников": мол, кровь из носу, а вы должны за свой счет устанавливать новые палатки вместо тентовых. Руководство ООО "Идея" предъявило предпринимателям ультимативное требование — до 25 января заключить договоры с фирмами на изготовление и установку металлических палаток каркасного типа. И тогда инициативная группа "трикотажников" вывесила на стенде листовку-призыв: *"Не подписывайте никаких договоров об установке роллетных киосков. Не поддавайтесь на шантаж со стороны администрации рынка. Не спешите выбросить ваши деньги!"* Тут же последовал контрудар от владельца рынка: *"В случае незаключения договоров в установленный срок торговые места будут передаваться индивидуальным предпринимателям трикотажного рынка, желающим установить металлические палатки"*.

В конце концов предприниматели хотят услышать от своего оппонента главное — изменить конструкции палаток на более дешевые либо выбрать иные варианты оплаты. Услышит ли их директор "Идеи"? — вот в чем вопрос.



### «Штыковая» атака

Владимир Штык — известный в бизнесе человек, возглавлявший в свое время фирмы "Бела Трейдинг" и "Ритм". Но его приказной тон по отношению к предпринимателям трикотажного рынка смахивает на обращение генерала с проштрафившимися солдатами. Действия его напоминают "штыковую" атаку". *"С теми, кто не подписал до 25 января договоры со строителями палаток, будут расторгнуты к 1 мая долгосрочные договоры о предоставлении им торговых мест*, — безапелляционно заявил он. — *Мне такая канитель с ними не нужна. Я ни одному предпринимателю не верю. Без них проживу, у меня стоит очередь за торговыми местами. Свободных средств у фирмы нет для устройства новых палаток. Я набрал кучу кредитов, за которые рассчитываюсь, а брать у них заемы на эти цели не имею права по 148-му указу президента.*

*Я за то, чтобы трикотажный рынок работал хоть 100 лет, но другого выхода у меня нет: таково решение горисполкома"*.

Вот так сегодня идет "конструктивный диалог" с теми, кто ежемесячно приносит ООО "Идея" 12—13 тысяч евро, которые помогают фирме вылезти из кредиторской ямы. А на рынке даже нет водопровода, туалета и освещения.

Зампред Брестского горисполкома **Игорь Сильченко** пояснил: насчет строительства трикотажного рынка нет специального решения или распоряжения городских властей о том, что он должен строиться за счет средств предпринимателей. Существует лишь договор, заключенный 21 ноября между горисполкомом (в лице И.Сильченко) и ООО "Идея" (в лице В.Штыка) — о регламентации сроков строительства рынка. Городской исполком дал разрешение на строительство, а исполнитель, или ООО "Идея", взял на себя обязательство по строительству рынка — до 1 апреля сего года.

Как гласит его текст, горисполком обязался *"рассматривать предложения по переносу сроков строительства и принимать объективные решения"*. Так что, думается, дирекции фирмы не надо стращать трикотажников, а, обосновав, продлить сроки строительства до разумных пределов. Тем более что для этого есть все основания.

Несостоятельна и ссылка руководства фирмы-заказчика на 148-й указ президента: там, наоборот, говорится о неправомочности решений на основании одностороннего решения собственника или сделки, заключенной на крайне невыгодных для арендаторов условиях. Ну, почти как про ситуацию на трикотажном рынке.

И, наконец, о расторжении ранее заключенных с предпринимателями договоров. Владимир Владимирович видит основание для этого в форс-мажорных обстоятельствах, оговоренных в п.17, когда наступают так называемые обстоятельства непреодолимой силы, согласно которым стороны не несут ответственности за неисполнение принятых на себя обязательств. Процитируем "судьбоносное" предложение: *"К обстоятельствам непреодолимой силы относятся землетрясения, наводнения, пожары, иные стихийные бедствия, а также ПОСТАНОВЛЕНИЯ ПРАВИТЕЛЬСТВА И ОРГАНОВ ГОСУДАРСТВЕННОГО УПРАВЛЕНИЯ"*.

Подобная формулировка — нонсенс в юриспруденции: изначально предопределено, что решения властей должны быть взвешенными, разумными и справедливыми. Однако в жизни бывает, что такая "презумпция невиновности" не всегда подтверждается. Свидетельством тому — постановления хозяйственных судов, которые порой признают эти решения не соответствующими законодательству. Да и сами предприниматели на себе чувствуют, что иногда решения органов госуправления являются обстоятельствами непреодолимой силы.

Однако можно ли отнести к "непреодолимой силе" договор между Брестским ГИК и ООО "Идея"? Или выписку из решения горисполкома (N 1729 от 14.12.2005 г.) о получении ООО "Идея" разрешения на размещение трикотажного рынка "в установленном порядке", или согласование Брестского зонального центра гигиены и эпидемиологии на временное размещение торговых палаток? Юрист **Надежда Быкова** из юридического агентства, с которым предприниматели заключили договор на оказание юридических услуг, прокомментировала ситуацию так: *"Согласно имеющимся договорам, у ООО "Идея" нет оснований расторгать их"*.

### Пример для подражания

По другому, взаимоприемлемому пути пошли при строительстве торговых палаток роллетного типа на рынке ОАО "Брест-Юбилейный", где должны в первое полугодие этого года установить 237 палаток. Администрация заключила с предпринимателями долговременные договоры займа на 950 и 1070 долларов — в зависимости от площади палаток. Это своего рода кредит для фирмы. Однако палатки являются собственностью ОАО. При активном участии совета предпринимателей рынка провели тендер, который выиграла фирма "БелХолод", выбрали подходящую конструкцию палаток. Мало того, дирекция пошла навстречу совету, увеличив торговую площадь палатки с 2х2 метра на 2х2,5 метра. Но договор со строителями заключает ОАО, а не "индивидуалы". По условиям договоров с торговцами через два месяца после их подписания ОАО начинает погашать денежные займы. Те же в свою очередь платят арендную плату за торговые места. Как видите, 148-й указ президента — не помеха такого рода сделкам.

В свою очередь исполнительный директор областного союза предпринимателей **Нина Карпинчик**, побывав в гуще событий, сделала вывод, что слабость "трикотажников" в том, что они разрознены и варятся в собственном соку. Поэтому им надо выбрать совет предпринимателей, который бы защищал их интересы. Она пыталась найти общий язык с директором "Идеи" В. Штыком, призвала его вести цивилизованный диалог, а не действовать, выражаясь языком юристов, путем принуждения к заключению договоров.

Конечно, как говорится, хозяин — барин. Только диктовать свою волю в рыночных отношениях, перегибать палку, невзирая на обстоятельства, — себе дороже. Предприниматели — это не подчиненные, а он им не начальник. Наоборот, он должен быть им благодарен, что они на пустом месте — без водопровода, туалета и освещения — несут ему "золотые яйца" в виде платы за торговые места. Кто ж такую курицу станет резать?

**Александр КОВАЛЬЧУК.**

*Брест.*

**АТАМНЫ ПРАЕКТ**

## *АЭС усё ж будзе?*

**Каштарысная вартасць будаўніцтва беларускай атамнай электрастанцыі складзе 2,5 мільярда долараў ЗША. Пра гэта паведаміў старшыня прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Міхаіл МЯСНІКОВІЧ.**

Паводле яго слоў, кілават электрычнай энергіі, атрыманы на АЭС, будзе каштаваць на 30—35% ніжэй, чым той, што выпрацоўваецца пры спальванні прыроднага газу.

Міхаіл Мясніковіч сцвярджае, што будаўніцтва атамнай станцыі дазволіць знізіць сабекошт электраэнергіі на 20%.

Мяркуецца, што магутнасць беларускай АЭС складзе 2 тыс. МВт, а пабудавана яна будзе ў 2015—2020 гадах, сказаў кіраўнік НАНБ.

М.Мясніковіч лічыць, што надзейнасць АЭС у Беларусі будзе значна вышэйшай, чым станцый, якія цяпер працуюць у суседніх з Беларуссю краінах.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

**ПАДЛІЧЫМ!**

## *Нашто ж выпускаць, калі ніхто не купляе*

Запасы гатовай прадукцыі ў прамысловасці за 2005 год павялічыліся ў супастаўных цэнах на 14,9%. Пры гэтым рост аб'ёмаў вытворчасці прамысловасці ў снежні 2005 года ў параўнанні са снежнем 2004 года склаў 16%.

Суадносіны запасаў гатовай прадукцыі і сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці ў 2005 годзе ў фактычных цэнах склалі 51,9% (у 2004-м — 53,8%).

Усяго ў прамысловасці на 1 студзеня 2006 года аб'ём запасаў гатовай прадукцыі склаў 2,03 трлн. рублёў.

Найбольшую ўдзельную вагу ў запасах гатовай прадукцыі займае прадукцыя прадпрыемстваў машынабудавання і металаапрацоўкі — 871,5 млрд. рублёў (42,8%), харчовай прамысловасці — 298,9 млрд. рублёў (14,7%), хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці — 239,6 млрд. рублёў (11,8%).

Мінімальныя запасы гатовай прадукцыі прыпадаюць на чорную металургію — 26,9 млрд. рублёў.

Як зазначылі ў Міністэрстве статыстыкі, заданне па зніжэнні запасаў гатовай прадукцыі на складах прадпрыемстваў не выканалі прадпрыемствы канцэрнаў "Белнафтахім", "Беллегпрам", "Белмясцпрам", Беларуская чыгунка, Белкаапсаюз.

На 1 студзеня 2006 года сярэднямесячны аб'ём вытворчасці значна перавышалі запасы металарэзных станкоў (у 2,3 раза), пральных машын (у 5,2 раза), бытавых гадзіннікаў (у 10,4 раза), радыёпрыёмных прылад (у 1,8 раза), шарсцяных тканін (у 4 разы), ільняных тканін (у 3,4 раза), панчошна-шкарпэтачных вырабаў (у 1,9 раза), прадукцыі швейнай прамысловасці (у 1,5 раза), абутку (у 1,8 раза), круп (у 2,9 раза).

**Марына НОСАВА.**

**НАБАЛЕЛА**

# Не аграпрам, а аграпромах

*Чаму старшыня беларускага калгаса радуецца ўраджаю ў 185—190 цэнтнераў бульбы з гектара, а польскі фермер «такое поле» заворвае...*

Калі ў беларускім калгасе бульба дае ўраджай 185—190 цэнтнераў з гектара, старшыня калгаса ганарыцца і атрымлівае ўзнагароды. Атрымаўшы такі ж ураджай, польскі фермер разумее, што яму працей заараць поле: уборка і падрыхтоўка бульбы да продажу будуць каштаваць даражэй за саму тую бульбу. Для яго норма — 500 цэнтнераў з гектара, і ён не атрымлівае ніякіх узнагарод. Толькі прыбытак.

А цяпер пытанне: ці можа пры такіх лічбах сучасная беларуская сельская гаспадарка быць канкурэнтаздольнай? Адкажыце самі.

У 2005 годзе Аляксандр Лукашэнка шчыра захапіўся ідэяй стварэння так званых аграгарадкоў — дарэчы, па вобразе і падабенстве ізраільскіх машаваў. Афіцыйная прапаганда тым часам не перастае нагадваць насельніцтву, што ў краіне *"не далі разваліць калгасы і саўгасы"* і пра *"харчовую бяспеку дзяржавы"*. Але вось пытанне эфектыўнасці пры гэтым ніхто не ўздымае. Бо сорамна. І ніхто не прызнаецца, што большасць прадуктаў харчавання ў Беларусі каштуе даражэй, чым у суседніх Польшчы, Расіі, Украіне.

Бульба — гэта толькі адзін з прыкладаў. У іншых галінах сітуацыя ніяк не лепей, і каб зразумець гэта, нават не трэба браць у рукі калькулятар. Самыя кепскія справы — у жывёлагадоўлі. Напрыклад, беларускія камбікармы нават блізка не адпавядаюць еўрапейскім стандартам. Яны ўтрымліваюць вітамінаў і мікраэлементаў у некалькі разоў меней, чым, напрыклад, іх аналагі ў Польшчы. Больш за тое, у еўрапейскіх камбікармах утрымліваюцца лёгказасваяльныя амінакіслоты. Гэта дазваляе выгадаваць свінню вагой 110 кг за 150—155 дзён, тады як у Беларусі на тое ж самае трэба 205—215 дзён. Пры гэтым кошт адной тоны беларускіх камбікармоў дасягае 400 долараў, тады як у Польшчы значна больш якасная прадукцыя каштуе не больш за 150. У выніку ў тых жа Германіі, Польшчы дзесятак яек каштуе 0,3 — 0,35 долара, а ў Беларусі — у два разы даражэй.

Што датычыць вытворчасці малака: у Еўропе статак у 500 кароў абслугоўваюць дзве даяркі, у Беларусі ў многіх гаспадарках — 30—40. Савецкія ёмістасці для ахаладжэння малака, што дагэтуль выкарыстоўваюцца паўсюдна ў Беларусі, не герметычныя, а многія з іх увогуле адкрытага тыпу. У Еўропе падобнага не могуць нават уявіць. Вось яскравы прыклад: некалькі год таму беларускія вытворцы павезлі лепшае беларускае малако ў Капенгаген. Датчане тады здзівіліся: чаму з беларускага малака так лёгка атрымліваецца ёгурт. Высветлілася, што ў беларускай прадукцыі, у параўнанні з еўрапейскімі нормамі, нашмат болей бактэрый, якія і спрыялі хуткаму пераўтварэнню малака ў ёгурт.

Яшчэ прыклад з жыцця: улетку да аўтара гэтага артыкула прыехала далёкая сваячка з Магілёўшчыны. Яна там працуе ў калгасе загадчыцай фермы. І тут, у Мінску, падчас пачастунку, жанчына нечакана адмовілася ад марожанага — "Не, я грэбую. Я ўсё малочнае толькі ад сваёй каровы спажываю". На пытанне "Чаму так?", госця распавяла: "Я ж на ферме працую і штодня бачу, як усё адбываецца. Прыходзіць п'яная даярка, дык яна ж не можа патрапіць даільным апаратам карове на вымя. Апарат гэты падае ў г... но і смокча замест малака бруд з лужыны. І гэта ўсё — і малако, і бруд, — ідзе ў адзіную цыстэрну. Не, я толькі ад сваёй каровы..."

Ці варта ў такіх умовах здзіўляцца таму, што Беларусь літаральна балансуе на вастрыі "малочнага скандалу" з Расіяй? Справа вось у чым: вялікія аб'ёмы беларускага малака ідуць на расійскія малаказаводы. Раней расіяне цалкам давяралі беларускім суправаджальным дакументам і уласных тэстаў не праводзілі. Але ў 2004 годзе на расійскіх заводах з'явіліся сучасныя біяхімічныя лабараторыі. Першыя ж праверкі паказалі: якасць беларускага малака вельмі часта не адпавядае той, што заяўлена ў дакументах.

Яшчэ горш справа з мясам вытворчасці беларускіх калгасаў і саўгасаў. У Еўропе жывёлам даюць лекі толькі тады, калі тыя захварэюць. У Беларусі ўсім (!) свінням штодня (!) даюць 0,6 грама антыбіётыка флаваміцына. Так, на ўсялякі выпадак, каб не захварэлі часам. А потым мы ўсё гэта атрымліваем разам з мясам. Да ведама: 0,6 грама флаваміцына — гэта практычна курс лячэння (пяць уколаў) для дарослага чалавека.

Трэба памятаць і пра тое, што ўжо ў бліжэйшай будучыні падтрымліваць сельскую гаспадарку Беларусі датацыямі стане проста немагчыма. Зараз кіраўніцтва краіны ганарыцца звыштанным газам, які цяпер ад Расіі будзе атрымліваць толькі Беларусь. І быццам бы не заўважае словы старшыні праўлення "Газпрама" Аляксандра Мядзведзева: "Все равно та цена специальная, которая действует для Беларуси, будет действовать только в 2006 году". А што далей? Як будуць, застаўшыся без таннага газу, існаваць саўгасы і аграгарадкі, якія вырабляюць нізкаякасную прадукцыю па звышвысокім сабекошце? Няма адказу... Тым часам колькасць сельскага насельніцтва скарачаецца: нараджальнасць мінусавая, людзі старэюць, а нешматлікая моладзь актыўна з'язджае ў гарады.

Я дагэтуль памятаю словы прафесара, дэкана майго факультэта біялогіі БДУ, які на пачатку 90-х выкладаў у нас раслінаводства. Падчас адной з лекцый ён сказаў: "У нас у Беларусі не аграпрам, а аграпромах".

Хто там казаў пра рэформы?

**Віктар ДЗЯМІДАЎ.**



**СУД ДЫ СПРАВА**

## *З незвычайным размахам*

**працавала крымінальная «спіртавая» групоўка**

У Беларускім ваенным судзе на гэтым тыдні пачаліся слуханні па беспрэцэдэнтнай крымінальнай справе, якую на працягу паўтара года расследавалі супрацоўнікі Пракуратуры Рэспублікі Беларусь. На лаве падсудных 46 чалавек, якія ўваходзілі ў злачынную арганізацыю, што займалася незаконнай вытворчасцю і рэалізацыяй нехарчовых вадкасцяў, што ўтрымліваюць спірт.

З чэрвеня 2000-га па 21 марта 2004 года злачынцы ажыццяўлялі незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць у сферы гандлю этылавым спіртам і вадкасцямі, што ўтрымліваюць спірт, якія пад выглядам харчовага спірту збываліся за наяўны разлік насельніцтву ў Беларусі, а таксама ў Літве і Польшчы. Для рэалізацыі злачынных задумак кіраўнікамі арганізацыі пад прыкрыццём афіцыйна зарэгістраваных, якія мелі спецыяльныя дазволы (ліцэнзіі), прадпрыемстваў і некаторых асоб была створана сетка — ад вытворцаў да пастаянных аптовых пакупнікоў прадукцыі, што ўтрымлівае спірт.

Актыўны ўдзел у незаконнай дзейнасці прымалі некаторыя супрацоўнікі сілавых структур, пры дапамозе якіх рэалізоўвалася сістэма супрацьдзеяння праваахоўным органам, забяспечваліся меры бяспекі і канспірацыі.

Усяго за час існавання злачыннай арганізацыі ад рэалізацыі этылавага спірту і нехарчовай прадукцыі, што ўтрымлівае спірт, агульным аб'ёмам каля 7 мільёнаў тон было атрымана каля 19 мільярдаў рублёў даходу.

Членам злачыннай групоўкі прад'яўлены абвінавачанні ў здзяйсненні шэрагу злачынстваў, у тым ліку ў стварэнні злачыннай арганізацыі альбо ўдзелу ў ёй, незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці, злоўжывання ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі і іншым. Пакаранне, прадугледжанае некаторымі артыкуламі Крымінальнага кодэкса, па якіх прад'яўлена абвінавачанне, дасягае 15 гадоў пазбаўлення волі.

Пазіцыю дзяржаўнага абвінаваўцы ў судзе падтрымліваюць два пракуроры. Чакаецца, што працэс будзе вельмі працяглым, паколькі ў ходзе судовых пасяджэнняў будзе заслухана больш за 200 паказанняў сведкаў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

СПАДЧЫНА

## Пяючая гліна Сяргея Шчэрбы

**Усё радзей можна заспець дома, у вёсцы Навасёлкі, што на Пастаўшчыне, даўняга тутэйшага жыхара Сяргея ШЧЭРБУ. Амаль штодня ён альбо ў ад'ездзе, або збіраецца ў шлях туды, дзе яго чакаюць.**

Далёка за межы раёна, Віцебскай вобласці і нават Беларусі разбеглася слава пра гэтага цудоўнага чалавека з непаўторным талентам ганчара, у залатых руках якога звычайная гліна пераўтвараецца ў мастацкія шэдэўры і музычныя інструменты.

За плячыма С.Шчэрбы — мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута (цяпер — ВДУ імя П.Машэрава). 20 год таму, з дыпломам гэтай ВНУ прыехаў Шчэрба працаваць у Навасёлкі — цэнтральную сядзібу славутага на ўвесь СССР калгаса імя Суворава — і застаўся тут дагэтуль, абзавёўся домам і сям'ёй, а з цягам часу стаў мясцовай славутасцю.

Спачатку Сяргей працаваў у Навасёлкаўскай школе, а потым засяродзіўся на ўласнай творчасці — ганчарным мастацтве. Выкарыстоўваючы досвед продкаў і тэарэтычныя набыткі, ён стаў ляпіць з гліны адмысловыя рэчы: посуд, лялькі, сувеніры, цацкі і духавыя музычныя інструменты. Навучыўся нават рабіць старадаўнюю акарыну — своеасаблівую гліняную флейту, якая нарадзілася ў Італіі, а каля 100 год таму прыжылася на Беларусі. На акарыне, вылепленай Сяргеем, іграюць музыкі вядомага беларускага гурта "Палац", а нядаўна замову на акарыну Сяргей атрымаў ад іншага гурта — "Аляксандра і Канстанцін".

Дзе толькі не паказваў Шчэрба сваё ганчарнае мастацтва! Ягонымі творамі захапляліся госці фестывалю "Славянскі базар у Віцебску", шматнацыянальная публіка Міжнароднага свята ў Польшчы ў гонар юбілею Грунвальдскай бітвы, расійскага фестывалю "Генуэзскі шлем" ды іншых прадстаўнічых форумаў.

Мінулай восенню ў Навасёлкі завітала, каб пазнаёміцца з народным ганчаром, госця са сталіцы Японіі. Яна жыла ў сям'і Шчэрбаў, вучылася ляпіць з гліны і размалёўваць цацкі ды свістулькі ў выглядзе птушак і звяркоў, спявала разам з гаспадарамі беларускія песні. Ад'язджаючы, паабяцала завітаць яшчэ ды не адна, а з сябрамі.

Пасля гэтага Сяргей вырашыў пабудаваць побач з хатай гасцёўню для прыезджых, якая б спалучала ў сабе гатэль з узорнай ганчарнай майстэрняй. Абслугоўваць яе Сяргею дапамогуць жонка і дзеці.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ЗДАРЭННЕ

## Згарэў музей

**У вёсцы Іконы Барысаўскага раёна згарэў Музей народнай славы, які з'яўляўся філіялам Барысаўскага аб'яднанага музея.**

Як паведаміла прэс-служба Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, полымем знішчаны дах і экспанаты — мэбля, карціны, фотаздымкі, ваеннае абмундзіраванне і іншае. Пашкоджаны таксама будаўнічыя канструкцыі. Пакуль лічыцца, што прычынай пажару стала парушэнне правілаў эксплуатацыі ацяпляльнага абсталявання.

ЗАКУЛИСЬЕ

# Кинематографисты ждут, когда Владимир Матвейчук адаптируется...

*26 октября минувшего года А.Лукашенко подписал указ о создании в Министерстве культуры Департамента по кинематографии. Совет министров в трехмесячный срок должен был* ***"принять меры по реализации данного указа"****. Однако Департамента как не было, так пока и нет...*

*Самое интересное, что в Министерстве культуры даже толком не могут ответить на вопрос, когда будет назначен руководитель этой структуры...*



Первый секретарь правления Союза кинематографистов **Николай Павлов** считает, что задержка с выполнением высочайшего указа связана с недавним назначением нового министра культуры *(как сообщала "Народная воля", в конце года на эту должность назначен однокурсник Лукашенко по Могилевскому пединституту, экс-председатель Белтелерадиокомпании, экс-директор по кадрам и идеологической работе ОАО "Полоцк-Стекловолокно"* **Владимир Матвейчук***)*.

*"Мне кажется, что Владимир Матвейчук хочет понять ситуацию, разобраться во всем,* — говорит Николай Павлов. — *Причем разобраться не только с созданием Департамента по кинематографии, а вообще с министерством. Он вначале желает прощупать все организации, находящиеся под крышей Министерства культуры, а уж потом принимать конкретные решения..."*

Идею создания Департамента по кинематографии Николай Георгиевич прокомментировал так: *"Не важно, как будет называться эта организация. Главное, чтобы она работала, оказывала реальную помощь, в том числе и материальную"*.

А вот председатель Союза кинематографистов **Игорь Волчек** уверен, что создание Департамента по кинематографии не спасет белорусское кино.

*"Дело в том, что вопрос создания подобной структуры Союз кинематографистов поднимал давным-давно,* — рассказывает Игорь Викторович. — *Было понятно, что без такой структуры, как "Госкино", нам просто не обойтись. После ее распада мы оказались в общем котле Министерства культуры, и наши надежды на создание Департамента прежде всего были связаны с тем, чтобы деньги, выделенные на кинематограф, шли именно на кинематограф. И чтобы мы понимали, кто лично у нас занимается кинематографом. И какие средства вообще отпускаются на эту отрасль. Но, мне кажется, что сегодня от перестановки мест и перераспределения функций ничего не изменится. Нужен радикальный подход. Должен быть некий серьезный, мощный проект, связанный с развитием белорусского кинематографа. При этом нам не нужно изобретать велосипед, можно изучить опыт того же Казахстана. Я уже не говорю про Россию, которая сейчас переживает киношный бум. К слову, в России сейчас усиленно муссируется слух о том, что Департамент по кинематографии будет распущен...*

*Не могу сказать, изменится ли что-то у нас с созданием Департамента. Но, на мой взгляд, при этой организации обязательно должен быть продюсерский центр. Без продюсерского подхода в рыночных отношениях строить какие-либо планы очень сложно. Но как только появится продюсерский центр, станет очевидно, что нужен мощный проект... Например, в том же Казахстане был запущен фильм "Кочевник", над созданием которого работали известнейшие люди. Бюджет картины составлял 34 миллиона, из которых значительная часть пошла на техническое обновление киношной базы. Это было серьезное вливание в кинематограф. И казахское кино резко пошло вперед. И в России то же самое: без мощной государственной поддержки не обошлось. Когда нашли средства на то, чтобы реанимировать "Мосфильм", все пошло вперед..."*

Кстати, руководитель Департамента по кинематографии назначается Советом министров по согласованию с Администрацией президента и по представлению министра культуры. Среди рассматриваемых кандидатур называют нынешнего директора столичного кинотеатра "Октябрь" **Александра Власенко**, начальника управления по киновидеоискусству Минкультуры **Владимира Куприенко**, а также некоторых одиозных пропагандистов из официальных средств массовой информации.

Игорь Волчек считает, что *"не столь важно, кто возглавит Департамент по кинематографии"*.

*"Нужен просто здравомыслящий человек, понимающий, что кинематографу необходим продюсерский подход",* — говорит он.

**Марина КОКТЫШ.**

ОФИЦИАЛЬНО

Как сообщала президентская пресс-служба, создание Департамента по кинематографии *"обусловлено необходимостью совершенствования системы государственного управления киновидеоотраслью"*. Данная структура будет *"координировать работу киновидеопрокатных организаций страны, размещать государственный социально-творческий заказ на производство фильмов и осуществлять контроль за их выполнением, выдавать государственные прокатные и классификационные удостоверения на право показа, проката, тиражирования, прдажи фильмов*, а также участвовать в работе Республиканской экспертной комиссии по предотвращению пропаганды порнографии, насилия и жестокости, *"формировать нормативную правовую базу отрасли, осуществлять фестивальную деятельность и выполнять ряд других функций"*.

В указе написано, что департамент *"с правами юридического лица создается путем объединения управления киновидеоискусства Минкультуры и Государственного регистра киновидеофильмов и киновидеопрограмм"*.

ЗЕМЛЯКІ

## 100 год без тэлевізара

**Да свайго 100-гадовага юбілею, што мае адбыцца ў сёлетнім чэрвені, няспешна, без пыхі і хвалявання, рыхтуецца віцебскі пенсіянер Ціт Кузьміч Іваноў.**

Няма сумневу ў тым, што доўгі век дзядулі Ціта ў многім тлумачыцца генамі: шматлікія продкі Іванова па бацькоўскай лініі вызначаліся моцным здароўем і доўгажыхарствам.

Аднак, лічыць Ціт Кузьміч, адной генетычнай спадчыны для таго, каб адолець стогадовы рубеж, недастаткова. Трэба рухацца, працаваць у поце твару, як вучыў Ціта ягоны бацька, Кузьма Кузьміч Іваноў, памерлы на 106-м годзе жыцця. Але і праца яшчэ не ўсё.

— Адзначыць стагоддзе можа кожны чалавек, — сцвярджае Ціт Іваноў. — Не трэба паліць тытунь і злоўжываць спіртнымі напоямі. Нельга зайздросціць чужому шчасцю і сварыцца з блізкімі людзьмі. Ну і, вядома ж, нельга быць лайдаком, абібокам.

Самому Ціту Іванову не давялося доўга адпачываць ад працы. Ягонае дзяцінства пачалося ў вёсцы Саладуха Шумілінскага раёна, дзе Ціт з ранняга маленства, беручы прыклад з бацькі, шчыраваў у полі.

Сям'я была не з нішчымных, і напачатку прымусовай калектывізацыі Ціт падаўся ў Віцебск, а потым апынуўся ў Данбасе, дзе каля 5 год працаваў шахцёрам. Потым — зноў Віцебск, цэх швейнай фабрыкі "Сцяг індустрыялізацыі", якая пасля шахты здалася Іванову раем. Гэтаму прадпрыемству Ціт Кузьміч аддаў 60 год, а потым выйшаў-такі на пенсію. У працоўным стажы Іванова быў адзін перапынак — на вайну, у час якой Ціт Кузьміч заслужыў тры ордэны і медаль, дайшоў ад Арла да Берліна.

Захоўваць прыстойны фізічны стан, светлую галаву і аптымізм Іванову дапамагаюць шасцёра ўнукаў і столькі ж праўнукаў, кожнаму з якіх дзядуля Ціт не шкадуе сардэчнай цеплыні і падарункаў.

Часткай персанальнага рэцэпта доўгажыхарства Ціт Кузьміч лічыць тое, што ніколі не глядзіць тэлевізар, бо не любіць "тлуму, хлусні і дурнога смеху". Раней ён не глядзеў перадач, бо не было тэлевізара, а потым адмовіўся ад хатняга экрана прынцыпова. І газет стары Іваноў не чытае з прынцыпу.

— Я лепш у акно пагляджу, там сапраўднае жыццё, — іранічна гаворыць Ціт Кузьміч. — А замест чытання газет з унукамі паразмаўляю...

Ці то жартам, ці то сур'ёзна старажыл прызнаецца, што марыць адкрыць у Віцебску клуб "Для тых, каму за 100", і наладзіўшы там напаўзабытыя цяперашняй публікай танцы, паказаць, як трэба выконваць класічную кадрылю.

— Галоўнае, каб дама знайшлася, а я — кавалер хоць куды, — смяецца ўсё яшчэ бадзёры дзядуля, які не прытрымліваецца адмысловай дыеты, а ў святочны дзень не адмаўляецца ад кілішка "белай".

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ПРАГНОЗ

# Азімыя вымерзлі?

*З-за маразоў у Беларусі загіне, паводле папярэдніх ацэнак, 20—25% пасеяных азімых збожжавых культур. Пра гэта паведаміў дырэктар Інстытута земляробства і селекцыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі акадэмік Міхаіл Кадыраў.*

*"У студзені былі вельмі моцныя маразы, шэсць дзён сярэдняя тэмпература трымалася ніжэй за 20 градусаў, месцамі яна апускалася да 35 градусаў. Уся бяда ў тым, што не ўсюды на палях быў снег",* — сказаў ён. Паводле слоў вучонага, калі б вышыня снегу дасягала хаця б 5—10 сантыметраў, то пад снежным покрывам было б мінус 25 градусаў, а на глыбіні глебы ў 2 сантыметры — мінус 10—15. Паводле звестак вучонага, рапс вытрымлівае тэмпературу мінус 14, пшаніца і трыцікале — мінус 15, жыта — мінус 18 градусаў.

*"Па нашых ацэнках, вельмі шмат загінула пасеваў азімага рапсу — да 80%",* — паведаміў М.Кадыраў. Пад ураджай 2006 года ў Беларусі было пасеяна каля 100 тыс. гектараў азімага рапсу.

Што да азімых збожжавых, то, паводле слоў М.Кадырава, цяпер шмат залежыць ад надвор'я вясной, у канца сакавіка — пачатку красавіка: *"Калі будзе ледзяная корка, выпадзенне снегу на адталую зямлю, вяртанне моцных маразоў пасля аднаўлення вегетацыі, то гібель азімых павялічыцца"*.

*"Звычайна ў нас 3—5% пасеяных азімых — непазбежныя страты. Сёлета будзе, канешне, значна больш, зараз мы пакуль не даем канчатковых ацэнак, але ўсё гаворыць аб тым, што верагоднасць гібелі 20—25% азімых культур несумнiўная",* — падкрэсліў М.Кадыраў.

Паводле яго слоў, Інстытут земляробства і селекцыі ўжо даў рэкамендацыі Міністэрству сельскай гаспадаркі і харчавання, "што і дзе перасяваць". *"Азімы рапс можна перасеяць яравым рапсам, можна павялічваць пасевы кукурузы на збожжа на поўдні краіны, можна сеяць проса, грэчку, перасеяць аўсом участкі з загінуўшымі азімымі, ушчыльняць пасевы там, дзе гэта магчыма. Разумна павялічыць пасевы кармавых каранеплодаў, паколькі іх у краіне недастаткова пасеялі, — для аграномаў гэта не праблема, чым засеяць",* — сказаў вучоны. Галоўнае, на думку М.Кадырава, заключаецца ў падрыхтоўцы страхавых фондаў насення ўсіх названых культур. Акрамя таго, як адзначыў вучоны, у некаторых раёнах давядзецца перасеяць збожжавыя збожжавымі. *"Тады трэба павялічыць дозу ўгнаенняў, хімічных сродкаў, гэта зробіць ураджай даражэйшым, але ўраджай будзе. Сітуацыя ні ў якім выпадку не з'яўляецца катастрафічнай",* — падкрэсліў М.Кадыраў.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Ці адсвяткуюць адмарозкі «элегантную» перамогу?

**10 лютага ў сядзібе Партыі БНФ (праспект Машэрава, 8, раней называлася вуліца Варвашэні) адбудзецца прэзентацыя новай карціны Алеся МАРЫ.**

Аўтар яшчэ канчаткова не вырашыў, як яе назваць. Альбо "За элегантную" перамогу!", альбо "Адмарозкі". А можа, і сумясціць дзве назвы. Палатно распавядае пра падзеі не такой ужо далёкай мінуўшчыны, якая, на жаль, можа стаць нашай блізкай будучыняй.

Пачатак імпрэзы а **18-й гадзіне**. Сярод гасцей і ўдзельнікаў прэзентацыі — мастакі, літаратары, барды.

РЭГІЁН

# Парасткі новай Беларусі

Расчуленымі да слёз пакідаюць дарослыя наведвальнікі адзіную ў Віцебску беларускамоўную дашкольную ўстанову — яслі-сад №72 аддзела адукацыі Кастрычніцкага раёна, педагогі і выхаванцы якога дабіліся перамогі ў абласным конкурсе на званне "Узорная беларускамоўная навучальная ўстанова". Дагэтуль прызёрамі звычайна былі толькі вясковыя школы і дзіцячыя садкі. Устаноў такога кшталту ў Віцебску наогул не было.

Яслі-сад №72 з'явіліся шчаслівым выключэннем.

Яму, гэтаму унікальнаму садку, ужо амаль 40 гадоў. Амаль увесь час існавання ён быў, можна сказаць, шараговым, вылучаючыся толькі аздараўленчым "ухілам", дзеля якога сюды накіроўвалі дзяцей з розных куткоў горада. І толькі на пачатку 90-х гадоў, адначасова з усталяваннем незалежнасці нашай дзяржавы, у садку прачнулася цікавасць да нацыянальнай культурнай спадчыны, а перш за ўсё — мовы.

Пачалося з педсавета на тэму "Наш родны край", абмяркоўваць якую па-руску педагогі палічылі нелагічным і некарэктным. Тая гутарка ўсім прыйшлася даспадобы, і беларуская мова стала для выхавальнікаў неад'емнай часткай жыцця, а пазней дала моцныя парасткі сярод маленькіх падапечных.

Большасць педагогаў працуе тут даўно — па 20—30 гадоў. Яны яшчэ заспелі той час, калі беларуская мова не была чужой для кіраўнікоў краіны і абавязкова прысутнічала ў грамадскім жыцці, часцей (і чысцей) гучала па тэлебачанні і радыё. Для супрацоўніц садка яна хутка стала незаменнай, іх стаўленне да яе — пазіцыя аднадумцаў. На ёй у садку афармляецца "нагляднасць", вядуцца ўсе дакументы і дзелавая перапіска, да якой садок пакрысе прывучыў вышэйстаячыя арганізацыі і, вядома ж, бацькоў сваіх гадаванцаў. А для іх, 234 дзяўчынак і хлопчыкаў, беларуская мова з'яўляецца будзённай, жывой, сапраўды роднай. Да такой ступені, што некаторыя з малых прызвычайваюць да сваёй мовы бацькоў, братоў і сясцёр. Веданне галоўнай мовы не шкодзіць засваенню і другой дзяржаўнай, якая ўсё яшчэ пануе ў школе.

А ў садку пануе беларуская. Яна гучыць у размовах дзетак і выхавальніц, на святочных ранішніках ды ўрачыстых канцэртах. Малыя чытаюць вершы айчынных паэтаў, спяваюць народныя песні, выконваюць ролі ў інсцэніроўках беларускіх казак. Госці садка адзначаюць правільнае вымаўленне ў малых артыстаў, ухваляюць іх поспехі ў засваенні народных рамёстваў і мастацтваў, старадаўніх абрадаў, якія, дарэчы, вельмі спатрэбіліся выканаўцам святочнага прадстаўлення "Калядкі". Выхаванцы садка не прапускаюць ніводнай прэм'еры ў тутэйшым беларускім тэатры "Лялька", акцёры якога вызначаюцца прыгожай мовай.

Адметна, што беларускамоўнасць выхаванцаў садка ніколі не замінала ім у жыцці, у кар'еры. Большасць іх без праблем скончыла сярэднія школы, паступіла ў ВНУ і паспяхова займаецца там. Нездарма ёсць бацькі, якія ўладкоўваюць у гэты "шчаслівы" садок не адно дзіця, а некаторыя водзяць сюды ўнукаў.

Сярод выпускнікоў садка ёсць настаўнікі школ і гімназій, а Юлія Шахорская вярнулася пасля ВНУ ў садок выхавальніцай.

Задаволены беларускім профілем садка ўсе бацькі малых, нават тыя, хто дрэнна ведае мову сваіх дзяцей. Калі ў садку адбываюцца канцэрты, і дзеткі выступаюць у нацыянальных строях з беларускімі песнямі і танцамі, то дарослыя гледачы не хаваюць слёз.

Пасля перамогі садка ў абласным конкурсе досведам гэтай установы зацікавіліся іншыя садкі горада. Можа, тут, у гэтым шчырым асяродку роднай мовы, прабіваюцца да волі парасткі новай, сапраўднай Беларусі?

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

РЕЦИДИВ

# Дорогие операции

*Накануне нового 2006 года А.Лукашенко подписал Указ "О совершенствовании материального стимулирования отдельных категорий врачей". По сути появилась новая схема поощрения лучших медиков страны. Но, как выяснилось, на практике без существенных надбавок к зарплате рискуют остаться известные в Беларуси хирурги. Ради которых, по словам минздравовских чиновников, все и затевалось.*



Дело в том, что предусмотренное в Указе повышение тарифных окладов с 1 декабря 2005 года до 3,5 раза коснулось только врачей с высшей или первой квалификационной категорией, работающих в государственных клиниках. Причем претенденты на надбавку должны "осуществлять высокотехнологичные и сложные медицинские вмешательства, а также интенсивную терапию больных после таких медицинских вмешательств".

Простыми словами оклады повысились у кардио- и нейрохирургов, специалистов, делающих операции по поводу онкологических заболеваний, а также эндоскопические и лапароскопические вмешательства. Попали в этот список специалисты в области трансплантологии, анестезиологии, реаниматологии...

В президентском указе отдельной строкой отмечалось, что нововведение оплаты труда медиков повысит материальное положение примерно трех с половиной тысяч специалистов от медицины. Но так ли все радужно на самом деле?

Понятно, что высокотехнологичные и сложные медицинские вмешательства в районных больницах не делают. Отечественные ТМО не оснащены современным медицинским оборудованием, позволяющим выполнять подобные операции. Они могут быть сделаны только специалистами столичных и в лучшем случае областных клиник. Большинство из них – известные в стране врачи, как правило, доктора и кандидаты наук. Зачастую в медицинских учреждениях они занимают должности научных сотрудников. И соответственно получают заработную плату по тарифным ставкам ученых, а не врачей. Что это значит? То, что они не попали в список "отдельных категорий врачей", которым Лукашенко повысил оклады с 1 декабря. Даже если кандидаты и доктора наук будут выполнять несколько высокотехнологичных операций в месяц, зарплату им все равно никто не повысит!

Повезло тем кандидатам и докторам наук, которые основную работу совмещают с работой на половину врачебной ставки. Эта "половина" оклада в случае выполнения сложных или высокотехнологичных операций тоже будет рассчитываться по новым тарифам.

Недавно хирург I категории, доктор медицинских наук одного столичного НИИ рассказал почти анекдотичную историю. Операции, которые он выполняет, попали в список "высокотехнологичных медицинских вмешательств", за которые положено "материальное стимулирование". В декабре он провел одну такую операцию и ждал положенного вознаграждения. В НИИ он занимает должность научного сотрудника, а врачом работает только на полставки. Значит, за декабрь ученый должен был получить половину повышенного врачебного оклада. Но не тут-то было. Обещанной надбавки в своем расчетном листе хирург не увидел. Выяснилось, что оперировал доктор наук после 13.00. А, согласно штатному расписанию, врачом он работает только с 9.00 до 13.00, после 13.00 — выполняет обязанности научного сотрудника. Вот и решили, что надбавка за проведение "высокотехнологичного медицинского вмешательства" ему не положена...

Любопытно, а каково мнение пациента, которого он прооперировал?

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

КРЫМІНАЛ

## Злодзей-патрыёт

**У Бабруйску затрыманы юнак, якога падазраюць у тым, што ён выкраў баявыя ўзнагароды з Музея Вялікай Айчыннай вайны.**

Па інфармацыі прэс-службы ГУУС Мінгарвыканкама, у лістападзе 2005 года з экспазіцыі музея былі выкрадзены тры медалі. Адразу ж была ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 387 Крымінальнага кодэкса ("незаконныя дзеянні ў адносінах да дзяржаўных узнагарод Рэспублікі Беларусь альбо Саюза ССР"). У час аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў было ўстаноўлена, што злачынства здзейсніў 17-гадовы жыхар Мар'інай Горкі, двойчы судзімы за крадзяжы. Затрымалі яго ў Бабруйску. Як паведамляе БелТА, ён ужо прызнаўся ў здзейсненым, але следства працягваецца.

Дарэчы, супрацоўнікі крымінальнага вышуку Цэнтральнага РУУС сталіцы два гады таму ўжо затрымлівалі гэтага маладога чалавека, бо падазравалі яго ў крадзяжы з таго ж музея дзвюх грамат "Героя Савецкага Саюза" І "Героя Сацыялістычнай Працы", якімі быў узнагароджаны Пётр Міронавіч Машэраў.

# Знай наших!




*Белорусский фристайлист **Дмитрий ДАЩИНСКИЙ** победил на последних соревнованиях перед Олимпийскими играми-2006 в Турине. Этого успеха он добился на Кубке мира, проходившем в Чехии.*

Как сообщил корреспонденту БелТА главный тренер сборной Николай Козеко, эта победа придаст его подопечному еще больше уверенности на предстоящем олимпийском турнире, где белорус планирует показать редкие по сложности прыжки.

Отличился в Чехии и **Дмитрий Рак**, занявший третье место. Это хороший показатель для включенного в последний момент в состав сборной спортсмена, который заменил получившего травму Тимофея Сливца, отметил главный тренер.

На вторую ступеньку пьедестала почета поднялась и наша **Алла Цупер**, которая, по словам специалиста, на последних крупных соревнованиях показывает стабильно высокие результаты.

Напомним, что Дмитрий Дащинский и Алексей Гришин на зимних Олимпиадах в японском Нагано и американском Солт-Лейк-Сити завоевали бронзовые награды.

# Знаем всех поименно

**Стал известен окончательный состав спортивной делегации Республики Беларусь, выехавшей на XX зимние Олимпийские игры 2006 года в Турин.**
**Отметим, что Олимпиада стартует в субботу, 11 февраля, а финиширует 26 февраля.**

В национальную команду по биатлону вошли: спортсмены — **Олег Рыженков, Александр Сыман, Сергей Новиков, Владимир Драчев, Рустам Валиуллин, Елена Зубрилова, Екатерина Иванова, Людмила Ананько, Ольга Назарова, Ксения Зикункова;** официальные лица — Александр Попов (главный тренер), Юрий Альберс (старший тренер у мужчин), Николай Захаров (старший тренер у женщин), Андрей Семеняков (тренер-врач), Андриан Цыбульский (старший тренер), Александр Устинов (тренер), Александр Степанов (тренер-массажист), Инесса Демешко (тренер-психолог), Валентин Батюков (тренер-оружейник). В резерве значится Алексей Айдаров.

Сборная по конькобежному спорту насчитывает всего лишь одну спортсменку — **Светлану Радкевич**. Такое произошло из-за ужесточения Международным союзом конькобежцев квалификационных нормативов.

Национальная команда по лыжным гонкам предстанет на Олимпиаде в следующем составе: спортсмены — **Сергей Долидович, Александр Лазуткин, Ольга Василенок, Елена Санникова, Людмила Шабловская, Виктория Лопатина, Екатерина Булавка**; официальные лица — Сергей Ионенков (старший тренер у мужчин), Юрий Абросимов (старший тренер у женщин), Владислав Стрельцов (тренер), Жанна Левчик (тренер-врач). Иван Листопад — главный тренер — из-за болезни находится в резерве.

Национальная команда по прыжкам на лыжах с трамплина состоит из трех человек: **Максима Анисимова, Петра Чаадаева** и старшего тренера Валентина Чаадаева.

Сборная по фигурному катанию представлена лишь **Сергеем Давыдовым** и Владимиром Котиным (старший тренер).

Национальная команда по фристайлу включает в себя: спортсмены — **Алексей Гришин, Дмитрий Дащинский, Антон Кушнир, Дмитрий Рак, Ассоль Сливец, Алла Цупер**; официальные лица — Николай Козеко (главный тренер), Максим Самойлов (старший тренер у мужчин), Василий Воробьев (старший тренер у женщин), Владимир Доронин (тренер-врач).

Национальная команда по шорт-треку состоит из **Юлии Елсаковой** и Татьяны Павлович (старшего тренера).

## АЛІМПІЯДА-2006

# У дадатак да медалёў

Кожны беларускі спартсмен, які заваюе медаль на зімовых Алімпійскіх гульнях у Турыне, атрымае ў падарунак аўтамабіль "Фальксваген". Пра гэта паведаміў намеснік старшыні Беларускага фізкультурна-спартыўнага таварыства "Дынама" Ігар Заічкаў у Мінску на прэс-канферэнцыі, арганізаванай Беларускай асацыяцыяй спартыўнай прэсы.

Залаты медаліст атрымае "Фальксваген Туарэг" (рыначны кошт каля 40 тыс. долараў ЗША), сярэбраны — "Фальксваген Пасат" (25 тыс.), бронзавы — "Фальксваген Гольф" (20 тыс.). Калі ў тройку мацнейшых трапіць эстафетная каманда па біятлоне, машыну атрымае кожны ўдзельнік квартэта.

Ініцыятарам акцыі выступілі БФСТ "Дынама" і "Мінскі транзітны банк". Як зазначыў старшыня праўлення банка Андрэй Жышкевіч, спорт у Беларусі з'яўляецца дзяржаўным прыярытэтам і яго фінансаванне робіцца ў асноўным з бюджэтных сродкаў. *"Між тым у суседніх краінах спартыўную галіну і алімпійскі рух у прыватнасці ў немалой ступені спансіруе нацыянальны бізнес. "Мінскі транзітны банк" вырашыў пачаць укараненне гэтай традыцыі і ў нашай краіне"*, — заявіў А.Жышкевіч.

Паводле яго слоў, пытанне аб падаткаабкладанні спартсменаў, якія ў выпадку паспяховага выступлення ў Турыне атрымаюць аўтамабілі, пакуль не вырашана.

Памер узнагароджання за залаты алімпійскі медаль складае 60 тыс. долараў ЗША, за сярэбраны — 30 тыс., за бронзавы — 20 тыс. На мінулых зімовых Алімпійскіх гульнях у Солт-Лэйк-Сіці беларускія спартсмены заваявалі адзін бронзавы медаль, на зімовай Алімпіядзе 1998 года ў Нагана — два бронзовыя, у 1994 годзе ў нарвежскім Лілехамеры — два сярэбраныя.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## ВЯЛІКІ ТЭНІС

# У чаканні Кубка Дэвіса

*Капітан зборнай Іспаніі па тэнісе **Эміліо САНЧЭС-ВІКАРЫО** (на здымку) верыць у перамогу сваёй каманды над зборнай Беларусі нават без дапамогі шэрагу наймацнейшых ігракоў. Пра гэта Санчэс-Вікарыо паведаміў у інтэрв'ю іспанскаму спартыўнаму штотыднёвіку "АС".*

Як мы раней паведамлялі, каманда Іспаніі прыехала ў Мінск для ўдзелу ў матчы Кубка Дэвіса не ў аптымальным складзе. Лідэр зборнай Рафаэль Надаль, пераможца Адкрытага чэмпіянату Францыі і другая ракетка свету, усё яшчэ залечвае траўму нагі і не плануе вяртацца на корт раней за канец лютага.

Апрача таго, таксама з-за траўмы, за Іспанію не згуляе Хуан-Карлас Ферэйра, 18-ты ў сусветным рэйтынгу.

Капітан іспанцаў выказаў шкадаванне, што Надаль не зможа ўзяць удзел у гульні, "бо ён увесь складаецца са станоўчай энергіі", і паскардзіўся на пакрыццё мінскага корта, "горш за які для траўміраванай нагі нічога не можа быць".

Санчэс-Вікарыо сказаў, што сінтэтычнае пакрыццё корта дае пэўныя перавагі беларусам і ў многім тлумачыць выдатныя вынікі іх выступленняў у родных сценах. *"Беларусь ні разу не прайгравала ў сябе дома і мае ў сваім актыве перамогі над камандамі нашага ўзроўню, напрыклад, над Германіяй ці Аргенцінай"*, — нагадаў ён.

*"На "Тарафлексе", пакрыцці, якое выбралі беларусы, немагчыма гуляць у тэніс. Пакуль яно новае, усё добра, але пасля становіцца, як лёд,* — сказаў Санчэс-Вікарыо. — *Але зусім натуральна, што нашы сапернікі прапануюць нам корт, які менш за ўсё нас задавальняе".*

У складзе зборнай Іспаніі ў Мінск прыедуць Давід Ферэр (на гэты час — 10-я ракетка свету ў адзіночным разрадзе), Томі Рабрэда (15-е месца ў рэйтынгу), Фернанда Вердаска (32-е) і Феліцыяна Лопес (34-е).

*"У выніку выхад у наступны круг спаборніцтваў будзе залежаць ад імкнення гэтых ігракоў да перамогі"*, — зазначыў капітан сапернікаў беларускай каманды.

Чакаецца, што Вердаска і Лопес выступяць у пары, а Ферэр і Рабрэда будуць супрацьстаяць беларусам у адзіночных сустрэчах.

Лідэры зборнай Беларусі Максім Мірны і Уладзімір Валчкоў займаюць адпаведна 29-е і 292-е месца ў сусветным табелі аб рангах. Астатнія беларускія тэнісісты ў рэйтынгу знаходзяцца ў другой тысячы.



Варта зазначыць, што ў лютым 2004 года ў матчы супраць зборнай Расіі Валчкоў пакаўзнуўся на пакрыцці мінскага корта і атрымаў сур'ёзную траўму галёнкаступнёвага сустава. У красавіку 2004 года капітан зборнай Аргенціны заявіў пасля паражэння сваёй каманды ў Мінску, што *"на такім хуткім пакрыцці ў свеце не гуляюць"*.

**Юрый ДАВІДОЎСКІ.**

## ЛИКБЕЗ

# Сам себе «03»

*«Бойся опасности, когда ее нет, когда же она пришла, не паникуй, а борись с ней», — говорится в «Аюрведе» — медицинском трактате, написанном древними индусами.*

### Ах, рана!

Не оставляйте порезы без внимания. Любое повреждение кожи — входные ворота для инфекции.

**Ваши действия.** Если вы чистили овощи, и в ранку попали грязь, песок, земля, не пытайтесь смыть все это струей воды — мелкие частицы останутся на месте. Обработайте порез 3%-ным раствором перекиси водорода — образовавшаяся пена удалит инородные частицы.

Смажьте кожу вокруг ссадины 5%-ной настойкой йода или спиртом, водкой, одеколоном, зеленкой, а затем на 4—5 дней наложите бактерицидный пластырь, меняйте его по мере необходимости.

Не лейте йод и спирт на рану! Алкоголь вызывает коагуляцию (свертывание) тканевых белков, как при химическом ожоге, усугубляет травму и затрудняет заживление.

В ближайшие дни после травмы не мочите заживающую ранку. Имейте в виду: инфекция попадает в нее не только в момент повреждения, но и после него, пока из нитей особого белка — фибрина — еще не сформировалась плотная защитная корочка.

### Живая вода

Человек, порезавшись, инстинктивно тянет палец в рот. Правильно ли это? Многие годы врачи твердили нам, что поступать подобным образом недопустимо, так как в слюне содержится множество бактерий, способных вызвать нагноение. Однако несколько лет назад они изменили мнение по этому вопросу. Теперь специалисты сравнивают слюну с живой водой из русских сказок, с помощью которой можно быстро исцелиться от любой травмы. Благодарить за это нужно так называемый эпидермальный фактор роста (ЭФР) — особый белок, который вырабатывают слюнные железы.

Благодаря ЭФР слизистая оболочка пищеварительной системы обновляется намного быстрее, чем кожа. Но и кожные повреждения заживут быстрее, если их обрабатывать составом, содержащим удивительный белок. Ученые разрабатывают лекарство от ран и ожогов на его основе. А вы можете воспользоваться целебной жидкостью собственного производства, подержав больной палец во рту.

### Заноза в пальце

Занозили палец? Оставлять занозу нельзя, но и извлекать ее нужно умеючи.

**Ваши действия.** Тщательно вымойте руки с мылом, а тонкую швейную иглу и пинцет из маникюрного набора прокипятите или обработайте спиртом, можно прокалить иголку на огне.

Введите иглу под кожицу сбоку от наружного конца занозы, под прямым углом к ней и, не углубляя иглу, постарайтесь воткнуть острие в занозу и вытолкнуть ее через ранку.

Если сделать это не удалось, обнажите кончик занозы иглой и захватите пинцетом.

Удалив занозу, смажьте ранку йодом или одеколоном, затем фурапластом, образующим защитную пленку, наденьте резиновый напальчник и только после этого можете возвращаться к прерванному занятию.

### Ожог: что делать?

Обожженное место нужно скорее охладить — это уменьшит боль, ослабит жжение и ограничит повреждение тканей. Высокая температура, от которой клетки гибнут все глубже и глубже, сохраняется до 6 часов, создавая так называемый эффект грелки.

**Ваши действия.** Подержите пострадавший участок под холодной струей из-под крана 10—15 минут. Можно приложить чистую марлевую или полотняную салфетку, смоченную холодной водой, и периодически менять ее. Или завернуть в салфетку кусочки пищевого льда для коктейлей.

Кожа покраснела, но волдырей нет? Протрите ее водкой (испаряющийся спирт холодит ткани), а затем часто и обильно смазывайте витаоном. Не используйте мази на масляной основе. Под слоем жира температура снижается медленнее, а эффект грелки усиливается.

На покрасневшей кожице появились пузыри с жидкостью и мокнущие (сочащиеся влагой) участки? Не смазывайте их водкой, спиртом, йодом, зеленкой, марганцовкой! Не посыпайте тальком и крахмалом — только занесете инфекцию! Наложите влажную повязку с раствором антисептика фурацилина (2—4 толченые таблетки на стакан теплой воды и быстро охладить). Испаряясь, он будет снижать температуру обожженного участка. Окуните в раствор бинт или марлю, сложенные в 4—6 слоев, слегка отожмите и прикройте больное место, захватывая 2—3 см здоровой кожи по краям. Закрепите бинт (нетуго).

Другой вариант — нанести на пораженный участок противоожоговый спрей или водорастворимую мазь (можно без повязки) — сильваден, дермазин, фламазин. Она окажет антисептическое и противоожоговое действие, ускорив заживление.

### Синяк — не пустяк

Ударились о выступ тумбочки, острый угол стола или табуретки? Посмотрите, как будет вести себя синяк. "Цветет", то есть изменяет окраску от красного через лиловый, вишневый и синий до желто-зеленого и желтого, значит, все в порядке. Не меняет цвет, а напротив, только больше багровеет? Начинается нагноение — немедленно обратитесь к врачу!

**Ваши действия.** Чтобы синяк меньше болел и быстрее рассосался, заверните в полотенце пузырь со льдом и положите на 10—15 минут к ушибленному месту. Если льда в морозилке нет, можно воспользоваться пластмассовой бутылочкой с холодной водой или хотя бы мокрым полотенцем.

Густо смажьте синяк смесью двух мазей — гируолоида и троксевазина (1:1), не дающей свернуться излившейся крови. Он быстро рассосется без боли и припухлости в месте ушиба. Для хорошего эффекта синяк в день травмы нужно смазывать трижды.

Попробуйте приложить к синяку ватно-марлевую подушечку, смоченную в наполовину разведенном водой яблочном уксусе. В первые 3—4 дня ограничьтесь примочками, а в последующие делайте компрессы на 2—3 часа.

Натрите луковицу на мелкой терке, добавьте столовую ложку истолченных в порошок листьев подорожника, смешайте с равным количеством меда и приложите на 2 часа к больному месту. Делайте такой компресс 3 раза в день.

Натрите на мелкой терке корень хрена или черную редьку либо растолките в ступке несколько капустных листьев, предварительно промыв их, и 2—3 раза в день прикладывайте свежеприготовленную кашицу к ушибленному участку тела.

Приложите к ушибу срез листа алоэ, закрепив лейкопластырем, и меняйте каждые 2—3 дня, пока синяк не исчезнет.

### Шишка на лбу

Стукнулись головой об угол стола или подвесного шкафчика?

**Ваши действия.** Приложите холод к ушибленному месту и в ближайшие часы внимательно прислушивайтесь к своему организму. Если после травмы появились сильная головная боль, головокружение, тошнота, рвота, зашумело в ушах или вы потеряли сознание, налицо симптомы сотрясения головного мозга. Вызывайте "скорую"!

Поступите так же, если через несколько часов или спустя 2—3 дня после черепно-мозговой травмы почувствовали головную боль, затошнило, возникла рвота, закружилась голова, ощутили онемение в отдельных частях тела или по ним поползли "мурашки". Присмотритесь к своим зрачкам: у здорового человека они абсолютно одинаковые, если же один зрачок уже другого, не исключено внутричерепное кровоизлияние, спровоцированное травмой. В этом случае госпитализация жизненно необходима.

Даже при легком сотрясении мозга могут возникать такие неприятные симптомы, как головная боль, тошнота. Бороться с ними помогают мочегонные травы: хвощ, кукурузные рыльца, толокнянка обыкновенная, мать-и-мачеха, бессмертник, листья березы, пижма, шалфей, брусника, пастушья сумка. Рецепты отваров найдете на аптечных упаковках, а принимать их нужно 7—10 дней.

### Растянули связки

Такое часто случается, когда вы подворачиваете ногу в голеностопном суставе. Если растянутым связкам не оказать помощь немедленно, со временем они ослабеют, и нога станет подворачиваться на ровном месте.

**Ваши действия.** Смажьте область сустава троксевазином или соматоном, наложите тугую повязку (чтобы она не сползла, круговые туры бинта чередуйте с "восьмерками", пропуская его под пяткой). На ночь повязку не снимайте. Она уменьшит отек и удержит сустав в правильном положении. Ходить в бинтах придется 5—7 дней, пока связки не оправятся от травмы.

Забинтовав ногу, на 15—20 минут приложите к больному месту холод. Лучше, если это будет снег или толченый лед в целлофановом пакете, чтобы холодный компресс плотно прилегал со всех сторон к пострадавшему суставу.

В ближайшие несколько дней побудьте дома. Удобно устройтесь в кровати или вытяните больную ногу на диване, подложив под нее подушку. На полное восстановление вам понадобится не меньше недели, в течение которой поменьше нагружайте больную ногу.

Смажьте кожу вокруг сустава кашицей из мелко натертого свежего или запеченного лука, смешанного с сахарным песком (1:10), оберните компрессной бумагой, укрепите бинтом. Меняйте компресс 2—3 раза в день.

Натертое на мелкой терке детское мыло смешайте с водкой и яичным белком до консистенции мази. Пропитайте ею сложенную в несколько раз марлю и прибинтуйте к больному месту на сутки.

Если боль усилилась, сустав распух, побагровел, немедленно обратитесь к врачу.

### Если это перелом

Вы упали и неудачно подвернули ногу или руку. Острая боль не проходит, а усиливается при малейшей попытке пошевелиться...

**Ваши действия.** Нужно срочно отправляться в травмопункт. Но прежде необходимо зафиксировать больное место.

Соорудите шину из того, что есть под рукой (палки, доски). С помощью платка, ремня или шарфа привяжите ее.

Приложите к больному месту лед в целлофановом пакете или холод. Так вы сможете остановить кровоизлияние при переломе и уменьшить отек.

### Не в то горло

Представьте себе картину: во время застолья один из гостей поперхнулся и закашлялся. Его со смехом начинают хлопать по спине, а бедняга никак не может сделать глоток воздуха. Лицо приобретает багрово-синий оттенок, слезы льются градом, возникает слабость, путается сознание...

Жизнь человека в опасности: кусок, попавший не в то горло (то есть не в глотку и пищевод, а в дыхательные пути), перекрыл доступ кислорода в легкие и вызвал так называемую острую асфиксию — удушье.

Действуйте четко и быстро — в вашем распоряжении не больше 3 минут. Если за это время дыхание не восстановится, человек может погибнуть!

**Ваши действия.** Встаньте позади пострадавшего, обхватите его руками вокруг живота, сцепите пальцы в "замок" на уровне пупка.

Энергично сдавите его живот спереди и с боков. Повторите 2—3 раза. Такое воздействие резко повышает внутрибрюшное давление, передающееся на диафрагму и легкие, в которых всегда есть небольшое количество воздуха — его вполне достаточно для удаления застрявшего пищевого комочка.

Если человек уже потерял сознание, осторожно уложите его спиной на пол или на землю и сильными толчками давите на участок живота над пупком.

Кусочки пищи и прочие инородные тела в дыхательных путях не всегда вызывают удушье. Небольшой предмет, проникший достаточно глубоко, может вызвать сильный длительный кашель, одышку, а со временем — хронический бронхит и пневмонию. При малейшем подозрении на инородное тело в дыхательных путях звоните в службу "Скорой помощи". Неважно, что пострадавший чувствует себя хорошо.

При любом движении (особенно при транспортировке, повороте с боку на бок, во сне) инородное тело может переместиться и закупорить дыхательные пути. Такого пациента разрешается перевозить только вместе с сопровождающим, обученным приемам скорой помощи.

### Если пошла кровь из носа

+ Сядьте на стул. Желательно положить под спину большую подушку. Ни в коем случае не ложитесь. В горизонтальном положении кровь приливает к голове и пойдет еще сильнее.

+ Хорошо высморкайтесь. Если в носу останутся сгустки крови, они не дадут слизистой оболочке сократиться, а без этого кровотечение долго не остановится.

+ Если есть возможность, закапайте в нос любой сосудосуживающий раствор — нафтизин, галазолин, отривин, тизин, санорин.

+ Скатайте ватный шарик, смочите его 3%-ным раствором перекиси водорода и введите в ноздрю, из которой идет кровь.

+ Положите на переносицу мокрый носовой платок, кусочек льда, завернутый в целлофан.

+ Выпейте 3—5 таблеток аскорбиновой кислоты и глюконата кальция. Эти препараты останавливают кровотечение.

### Травматический шок: ваши действия

Вы ударились, и от сильной боли буквально потемнело в глазах, закружилась голова, тело покрылось липким потом. Такое состояние медики называют травматическим шоком. Вызвать его могут ожоги, ранения, переломы. Травматический шок возникает, когда нервная система не в состоянии справиться с обрушившейся на нее болью.

+ Чтобы справиться с этим состоянием, постарайтесь по возможности уложить пострадавшего на удобную постель и успокоить его.

+ Если шок вызван кровотечением, аккуратно обработайте рану и наложите на нее давящую повязку.

+ Если у больного нет тошноты и рвоты, дайте ему крепкий сладкий чай. Имейте в виду — поить придется его из чайной ложечки.

+ Хорошо дать человеку также какое-нибудь средство для стимуляции сердечной деятельности, например, 20—40 капель кордиамина в небольшом количестве воды. Растолките с водой и дайте выпить с ложечки 1—2 таблетки любого анальгетика — аспирина, анальгина, баралгина.

+ Спиртные напитки в качестве обезболивающего допускаются лишь в самом крайнем случае и в минимальном количестве.

+ Шок не проходит? Вызывайте "скорую".

## КРЫМІНАЛ

# Калі няма мазгоў...

Аддзелам папярэдняга расследавання Асіповіцкага аддзела ўнутраных спраў на транспарце распачата крымінальная справа ў дачыненні да двух 20-гадовых жыхароў Бабруйска па частцы 2 артыкула 339 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі, у выніку аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў было ўстаноўлена, што гэтыя маладыя асобы 31 студзеня на 373-м кіламетры перагону Татарка—Мірадзіна ў Магілёўскай вобласці на мачтавых святлафорах разбілі шэсць вонкавых, пяць унутраных лінзаў і пяць лямпачак, тры лямпы асвятляльных мачтаў, а на прыпынку пашкодзілі дзве скрыні для пяску, дошкі ад якіх паклалі на рэйкі, у выніку чаго прымянялася экстраннае тармажэнне грузавога цягніка. Падазроныя былі затрыманыя ў дызель-цягніку Асіповічы—Бярэзіна.

Сума нанесенага Беларускай чыгунцы ўрону склала каля мільёна рублёў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# Каля трыццаці навінак

**Сёлета выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" выпусціць каля 30 новых, у тым ліку дзевяць сацыяльна значных выданняў. Пра гэта паведаміла намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва Людміла Календа.**

Паводле яе слоў, сёлета ўбачаць свет другі і трэці тамы шасцітомнай энцыклапедыі "Рэспубліка Беларусь" на рускай мове, том "Брэсцкая вобласць" у серыі "Гарады і вёскі Беларусі", другі том двухтомніка "Вялікае княства Літоўскае", энцыклапедыя "Блакітны скарб Беларусі" і "Турыстычная энцыклапедыя Беларусі" (на рускай мове).

*"Цікавасць у спецыялістаў выкліча энцыклапедычны даведнік з двух ілюстраваных тамоў, прысвечаны гісторыі развіцця мужчынскага і жаночага касцюмаў у Беларусі,* — зазначыла Л.Календа. — У выданне ўвойдуць апісанні ўсіх касцюмаў, што існавалі на тэрыторыі Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён, у тым ліку адзенне першабытных людзей, свецкія, ваенныя і народныя касцюмы, адзенне шляхты і магнатаў, сялян і гараджан".

Паводле яе слоў, на аснове 18-томнай "Беларускай энцыклапедыі" будзе выдадзены яе скарочаны аднатомны варыянт "Беларускі энцыклапедычны слоўнік" з універсальнай інфармацыяй. У серыі "Помнікі гістарычнай думкі Беларусі" выйдуць першы і другі тамы трохтомніка Яўхіма Карскага "Беларусы", а таксама факсімільнае выданне Пятра Сямёнава-Цян-Шанскага "Верхняе Падняпроўе і Беларусь" (на рускай мове).

У серыі "Энцыклапедычная бібліятэчка самаадукацыі" выйдуць пяць кніг (усе на рускай мове), у тым ліку "Светапогляд славян" Фёдара Буслаева, "Лекцыі па гісторыі заходняй Расіі" Міхаіла Каяловіча, "Прагрэс як эвалюцыя жорсткасці" Барыса Энгельгарта і "Выхаванне разумовае, духоўнае і фізічнае. Выхаванне характару" Герберта Спенсера. У сакавіку выйдзе даведнік Барыса Далгатовіча "Салдацкая слава" (на рускай мове) пра воінаў, якія сталі ў гады Вялікай Айчыннай вайны поўнымі кавалерамі ордэна Славы трох ступеняў.

**Марат ГАРАВЫ.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).
ФДУП "Смоленский полиграфический Комбинат", 214020, г.Смаленск, вул. Смальянінава, д.1.
Падпісаны ў друк 9.02.2006 у 12.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж: 27 000 экз. Заказ №13564